


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Аксана Прус →3

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3230) Год LXIII Беласток, 8 красавіка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

У Пачатковай школе № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім, пры якой надалей дзейнічае белгімназія, 26 сакавіка быў днём вельмі святочным. Вучні ад першых класаў пачатковай школы, па апошнія класы белгімназіі годна і радасна адзначылі Дзень Незалежнасці і адначасна сотыя ўгодкі праклямавання 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеткі I-III класаў пачатковай школы вельмі ахвотна прынялі ўдзел у вакальным конкурсе на найпрыгажэйшае выкананне патрыятычнага твора на беларускай мове "Сцяг". Вучні старэйшых класаў пачатковай школы выканалі рознымі тэхнікамі на конкурс вельмі прыгожыя выявы герба «Пагоня». Белгімназісты II Б класа займальна выступілі перад школьнай публікай на дзвюх урачыстых лінейках, прымеркаваных да Дня Волі. Цікава і змястоўна расказалі яны пра стварэнне і дзейнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Школьныя калектывы «Світаначак», «Світанак» і «Капрыз» цікава запрэзентаваліся з песенным рэпертуарам на беларускай мове і беларускімі народнымі танцамі. Яшчэ да святкавання вучні на ўроках знаёміліся з гістарычнымі падзеямі 1918 года, якія спадарожнічалі абвяшчэнню Беларускай Народнай Рэспубліцы.





# Дзень Незалежнасці ў бельскай «тройцы»



— У гэтым годзе адзначаюцца сотыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і таму ў нашай школе святкаванне Дня Незалежнасці такое багатае. Наймалодшыя вучні займальна спявалі ў конкурсе выканаўцаў беларускага твора «Сцяг», старэйшыя вучні на конкурс выканалі вельмі прыгожыя гербы «Пагоня» і пасля расклеілі іх у калідорах нашай школы. Нядаўна веды па гісторыі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі цікава запрэзентавалі нашы гімназісты і займальна выступілі вакальныя і танцавальныя калектывы, з якімі займаецца настаўніца Анна Вярцінская. Я рада так вялікай актыўнасці нашых вучняў і настаўнікаў. Вучні павінны ведаць гісторыю продкаў і таму патрэбныя такія святкаванні, як сённяшняе, — скажа пасля завяршэння першай лінейкі дырэктар Пачатковай школы № 3 Іаанна Каліноўская, якая дзень раней з настаўнікамі сваёй школы ўдзельнічала ў цэнтральных святкаваннях Дня Волі ў Беластоку. — Святкаванні ў Беластоку былі вельмі ўрачыстымі і цікавымі. Падабаўся нам таксама канцэрт Лявона Вольскага. Там гербам «Пагоня» ўзнагароджаны быў войт суседняй Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк, бацька нашага вучня.

Панядзелак быў вельмі ўрачыстым днём у школе, аб чым напаміналі гербы «Пагоня», бел-чырвона-белыя сцягі і лозунгі з заклікамі святкаваць Акт 25 Сакавіка, расклееныя на дзвярах і сценах калідораў у розных месцах школы. Старэйшыя вучні пачатковай школы прыступілі да конкурсу арганізаванага настаўніцай беларускай мовы Іааннай Васілюк на выкананне герба «Пагоня». Ідэяй конкурсу было распрапагандаваць сярод вучняў беларускі гістарычны герб, вядомы на беларускіх землях многа стагоддзяў таму. Выявы герба вучні выконвалі рознымі тэхнікамі — малявалі, рысавалі, выклейвалі з нітак, тонкай паперы, а рэзультат іх мастацкай працы можна было ўбачыць на школьных калідорах. На чацвёртым уроку вучні малодшых класаў пачатковай школы спявалі супольна па чарзе патрыятычны беларускі твор «Сцяг», у якім паўтараецца фраза пра наш сцяг бел-чырвона-белы.

— Дзеткі I-III класаў ахвотна прыступілі да конкурсу і разам з настаўнікамі развучылі твор «Сцяг», які пасля спявалі самастойна і вельмі эмацыйна. Вучні загадзя намалявалі прыгожыя бел-чырвона-белыя сцягі, на якія наклейвалі яшчэ «Пагоню» і падчас спеву падымалі сцягі ўверх. Дзеткі спявалі прыгожа і стараліся прыцягнуць увагу да сваіх сцягоў. Пазней было абвешчана, што вучні з паасобных першых і другіх класаў занялі першыя і другія месцы. Толькі сярод трэціх класаў, якіх у нашай школе ажно шэсць, былі трэція месцы, — сказаў настаўнік беларускай мовы Андрэй Мароз.

Падчас дзвюх урачыстых лінеек займальна выступілі гімназісты II Б класа. Вучні расказалі пра падзеі 1918 года, стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і дзейнасць яе ўрада. Выступленні вучняў з гістарычнымі звесткамі пераплята́ліся са спяваннем беларускіх патрыятычных і эстрадных песень і выкананнем школьнымі калектывамі народных беларускіх танцаў. Спяваць твор «Пагоня» навучыла вучняў II Б класа настаўніца Іаанна Хількевіч. Займальна запрэзентаваліся вучні, якія спяваюць і танцуюць у калектывах «Світаначак», «Світанак» і «Капрыз» пад кірункам настаўніцы Анны Вярцінскай. Галоўным арганізатарам святочных лінеек была настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч, якая ў мінулых гадах таксама ладзіла лінейкі з нагоды Дня Незалежнасці.

— Кожны год адзначаем у школе свята абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Сёлета святкаванні асабліва ўрачыстыя па прычыне сотых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Я з выступаючымі вучнямі хацела дакладней прыблізіць вучням пачатковай школы і гімназістам гісторыю стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, бо пэўныя гістарычныя здарэнні вучні ведаюць ужо з урокаў беларускай мовы і з лінеек з папярэдніх гадоў. Гімназісты з II Б класа запрапанавалі мне зрабіць лінейку больш разнароднай, што спадабалася школьнай публіцы. Кожны вучань хацеў выступіць і я дазволіла на такое, каб усе вучні маглі адчуць святочную атмасферу, — сказала настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. — Я Дзень Незалежнасці пачала святкаваць у 1986 годзе ў Мінску, будучы студэнткай. Мы святкавалі ў вялікай канспірацыі каля магілы Караткевіча, паклалі на магілу кветкі, а потым трэба было ўцякаць ад міліцыі.

Выступаючыя перад сваімі сябрамі белгімназісты адчувалі патрэбу святкавання Дня Незалежнасці ў сваёй школе.

— Дзень Незалежнасці святкуецца ў нашай школе штогод і мы даведваемся аб гісторыі спалучанай з гэтым святкаваннем, — заявіла Карына Астроўская.

— Мне гісторыя Беларусі асабліва важная, бо частка маёй сям'і выводзіцца з Беларусі, — дабавіла Лена Пасечнік.

— Гісторыя Беларусі, гэта таксама наша гісторыя, а 25 Сакавіка гэта важнае нам святкаванне, — гаварылі Давід Дзікоўскі і Дамініка Швэдко.

— Я ў калектыве «Світанак» займаюся ад васьмі гадоў і мне вельмі падабаюцца выступы з беларускім рэпертуарам. Мы здаўна танцуем «Лявоніху», але ад двух гадоў выступаем з новай апрацоўкай гэтага танца і такую паказалі сёння, — заявіла Іаанна Нікіцюк.

— Тут нарадзіліся і жылі нашы бацькі, дзяды і прадзеды і мы павінны ведаць нашу гісторыю. Беларускасць, гэта таксама частка мяне і я павінна ведаць аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, аб чым гаварылася падчас лінейкі. Сённяшняе святкаванне важнае ўсім нашым вучням і мы павінны святкаваць Дзень Незалежнасці, які тычыцца таксама беларусаў, якія тут пражываюць, — сказала Юлія Скарбілові́ч.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Мы іх памятаем

Я перакананы, што не пашкодзіць яшчэ раз падзяліцца ўражаннямі ад святкавання беларусамі стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Шмат пра гэта пісалі, гаварылі, прамаўлялі ў выступах, фатаграфавалі і абмяркоўвалі сфатаграфаванае, аналізавалі, што зрабілі, што напісалі і што сказалі... Але ўвесь час здаецца, што трэба штосьці яшчэ. Трэба прыпомніць усё. Трэба нічога не ўпусціць, асабліва важнага. А 25 сакавіка 2018 года ва ўсіх кутках нашай планеты, дзе толькі пражываюць беларусы, прайшлі ўрачыстасці. Беларусы славілі сваіх прашчураў, якія ажыццявілі мару лепшых сыноў і дочак беларускай нацыі на аднаўленне сваёй дзяржаўнасці. За гэтую мару змагаліся, рызыкавалі свабодай і жыццём, але не зракаліся яе, таму што гэта натуральнае і лагічнае пачуццё для кожнай нацыі — мець сваю вольную, незалежную і справядлівую дзяржаву. І мы, як нацыя, выпакутавалі гэтае права. І таму ў соты Дзень Волі гучалі выступы, гралі музыкі, спявалі артысты, весяліліся ўдзельнікі, грымелі салюты, луналі сцягі... Наша планета ў гэты дзень стала бел-чырвона-белай.

А юбілейны год толькі пачаўся. На працягу цэлага года грамадзяне Беларусі, як і нашы славутыя продкі сто год таму, будуць заяўляць усяму свету, што ёсць зямля, на якой жывуць беларусы, што яны тут былі здаўна і будуць заўсёды, што 100 год таму на палітычнай мапе свету ўзнікла краіна з назвай Беларусь, і з гэтай рэчаіснасцю трэба лічыцца ўсім і заўсёды. Сто год таму ворагі беларускай ідэі не зразумелі гэтага. Яны тады прыклалі ўсе намаганні і не далі ажыццявіць яе да канца. Але беларуская ідэя перажыла іх, перажыве і тых, хто з ёю змагаецца сёння. Савецкі Саюз разваліўся, камуністычны блок знік, злачынствы таго рэжыму, які намагаўся знішчыць беларускую ідэю, раскрываюцца ўсё больш. А беларуская ідэя жыве і шырыцца, нягледзячы на тыя шматлікія выпрабаванні, якія выпалі на яе долю, і таму даказала ўсяму свету сваю праўдзівасць і сваю жыццяздольнасць. А самае галоўнае — пацвердзіла сваім носьбітам, беларусам, што яны не памыляліся ні наконт яе, ні наконт сябе.

У гэты год беларусы яшчэ неаднойчы ўзгадаюць свой юбілей. За гэты год трэба прыгадаць не толькі ўсё, што было за тыя сто гадоў, але і тое, што прывяло да стварэння БНР. Успавіць і перыяд Ефрасінні Полацкай, і перыяд Льва Сапегі, узгадаць і князёў, і сялян, не забыцца ні магнатаў, ні касінераў, абмеркаваць подзвігі ды жыццё і Хадкевіча, і Каліноўскага... Колькі іх! Хопіць не толькі на гэты юбілейны год. Безліч славутых перыядаў і славутых імёнаў, якія з'яўляюцца самым трывалым падмуркам беларускай дзяржаўнасці і самым моцным гарантам яе будучага існавання. Бітва пад Оршай, Слуцкі збройны чын, чарговае аднаўленне дзяржаўнасці... Гэта ўсё слава і гонар нацыі. Гэта вялікая гісторыя, якая робіць шлях да беларускасці незваротным.

Не ведаю, якія ідэалы ў тых, хто змагаўся і нават зараз змагаецца з імклівым і непазбежным адраджэннем беларускасці. Не хачу пра іх пісаць у гэтым артыкуле. Не хачу і намагацца спазнаць іх думкі. А нам ёсць што ўспомніць у гэтыя дні. І не толькі герояў мінуўшчыны, якія праславілі наш род, такіх як генерал Булак-Булаховіч ці Іван Серада... Мы ў юбілейны год мусім успавіць імёны і тых змагароў за беларускасць, якія былі побач з намі, але ўжо адышлі ў лепшы свет, якія на нашых вачах першымі падымалі бел-чырвона-белы штандар, першымі ішлі ў шэрагах змагання за адраджэнне беларускасці і сваім жыццём паказалі прыклад цвёрдасці і адданасці беларускай ідэі і нашым сучаснікам, і будучым пакаленням беларускіх патрыётаў. Дзякуючы ім, гэтыя будучыя пакаленні змогуць ганарыцца не толькі былымі славутымі подзвігамі, але і часам, у якім мы жывем.

Вечная ім памяць! І слава героям! Іх мары збываюцца, бо былі не толькі вялікімі, але і чыстымі. І мы юбілейны год мусім выкарыстаць не толькі для таго, каб наведаць месцы іх пахавання або змагання, але і ўвекавечыць памяць пра іх, каб і наступныя пакаленні ведалі іх імёны таксама, як і імёны даўнейшых змагароў. І так як і мы, каб памяталі пра іх.

Жыве Беларусь!!!

Віктар САЗОНАЎ



# Парадыгма рэлігіі

Трэба неяк выжыць. Не так выжываннем з дня ў дзень, у цяжары і гною жыцця. Усё ж, мы перажываем рэдкія моманты шчасця. Выжываем, нягледзячы на штодзённыя расчараванні і падзенні. Які ж гэта зняважальны вопыт — падаць і ўздымацца. Лезці ўверх і валіцца ўніз. Лесвіца Якава згінаецца ад цяжару ўзыходзячых і сыходзячых анёлаў, безупынна, задыхаючыся. Якая прыгожая метафара. Але і шакіруючая. Ад вякоў актуальная. Чаму? Вось гэта пытанне. Падобна як іншае, сёння ўжо састарэлае, якое вельмі сур'ёзна ставілі сабе сярэднявечныя схаласты — колькі анёлаў можа змясціцца на булаўцы? Нехта сказаў бы, спасылаючыся на гэтае пытанне, што гэта абсурд, а выкліканая праблема — камічная. Так, але ў тыя часы тэмай турбаваліся самыя лепшыя мазгі і часта прыводзіла яна да трагічных спрэчак. Хтосьці страціў з-за гэтага жыццё, хтосьці дасягнуў арэолу святасці. Тагачасная парадыгма веры была бескампраміснай.

Такая парадыгма з'яўляецца ў кожнай рэлігіі ў выглядзе прамога заказу — паведамлення, пасля чаго, на працягу стагоддзяў развівалася шматлікімі каментарыямі і інтэрпрэтацыямі ў ідэалагічна прыцемненыя парафразі. Цікавая парадыгма кананічная, дакладна вызначаная, а ў параўнанні з хрысціянскай больш засяроджаная безумоўнымі загадамі, чаго вынікам з'яўляецца фундаменталісцкі інтэрпрэтацыйны рэжым. На жаль, калі яго адчытваць пазаметафарычна, прама, з усёй бязлітаснасцю фанатычна вытлумачвай праўды, сягае яна да вытокаў чалавечай дэструкцыі. Іслам як іслам, але нямала гэтай дэструкцыі таксама ў хрысціянстве. У апошні час выкліканая касцёлам і яго палітычнымі агентамі дактрынальная спрэчка пра зачатае жыццё, паказвае, што фундаменталізм распаўсюджваецца па ўсім зямным шары.

Аднак поле бітвы, на якім адбываецца драматычны канфлікт паміж хрысціянствам і ісламам, па сутнасці з'яўляецца мікраскапічным. Не большым, чым паверхня булаўкі. Яе макраскапічны маштаб паказвае толькі фундаменталісцкая разумовая ўпартасць яе паслядоўнікаў. Пытанне пра колькасць анёлаў, якія могуць змясціцца адначасова на булаўцы, сапраўды не смешнае. Наадварот, абсурднае тое, што яно займае розумы людзей ад сярэднявечча да сучаснасці. Інакш кажучы, мы сёння ані трохі мудрэйшыя, чым нашы продкі. Фундаменталісцкі менталітэт, але не так рэлігійны, як разумовы з'яўляецца нейкім сучасным чалавечым выкапнем, з прарэптыльнага мінулага. Больш за тое, ён развіваецца ў адпаведнасці з дарвінаўскай канцэпцыяй адаптацыі да пастаянна змяняючагася культурнага асяроддзя і чалавечай цывілізацыі. Няма іншага выбару — трэба гэта выжыць. Нягледзячы на пазапланетарныя палёты, на глыбокае пранікненне ў Сусвет касмічнымі тэлескопамі, сядзім па вушы ў цёмным сярэднявеччы — у думках, але не інтэлектуальна. Гэта прамежкавы стан, паміж падзеннем і ўздымам. Успрымаем яго ва ўспышцы імгнення, успышцы цудоўнай, натхнёнай, але надта кароткай, каб стала звяном у ланцугу падзенняў і ўздымаў. І яшчэ трэба пананізваць на мазгавыя нейроны ўвесь жах чалавецтва: яго неверагодныя злачынствы, жорсткасць і легкадумнасць. І яшчэ паладзіць у сумленні святасць ціхіх і пакорлівых утаптаных у зямлю і бяздумную подласць тых, хто іх утаптаў. Усё давядзецца трываць. Магчыма, тое, хто мы сёння, гэта раўнадзейная ўсіх гэтых крайнасцей. З нашым прарэптыльным фундаменталізмам і нашай нязгодай на гэта. Магчыма, усё гэта з'яўляецца спадчынай усіх нас. Што адкінуць, а што пакінуць? Чалавечы мозг не ў стане зразумець усё ва ўсвядомленым працэсе пазнання. Суцеху нясе інтуітыўнае перакананне, што не ўпусцім важнага. Напрыклад, як пытанне аб існаванні Бога. Адносіцца і да вернікаў, і да агностыкаў, дэістаў і атэістаў. Прынцыповае пытанне. Узыходзіць ад вытокаў чалавечых страхаў і надзей, і сумневаў. Але каб сустрэцца з імі, трэба набрацца крыху элементарнай смеласці, чыста чалавечай мужнасці. Ці змогуць гэта зрабіць фундаменталісцкія розумы?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Быць Нам Разам — БНР 100 гадоў (2)

Урачыста, па-святочнаму і з годнасцю адсвяткавалі беларусы ў Польшчы сотую гадавіну праклямавання Беларускай Народнай Рэспублікі — пачынаючы ад беларусаў Памор'я і нястомнай прафесар Лены Глагоўскай, што ў Трыгорадзе ахоўвае беларускую памяць, праз традыцыйны марш Каралеўскім трактам варшаўскіх беларусаў, да святкаванняў на роднай нам Беласточчыне. А тут, дзякуючы беларускім ліцэям у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы і бельскай «тройцы» дзень беларускай незалежнасці для соцень маладых беларусаў стаў сапраўдным урокам нашай нацыянальнай гісторыі. Памяць і ўшанаванне Акту 25 Сакавіка мелі месца і ў іншых школах, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Не ўсюды нашы журналісты змаглі даехаць, таму пішыце і дасылайце свае інфармацыі і фатаграфіі ў рэдакцыю «Нівы». Памятайма таксама пра конкурс «Зоркі», які трывае ўвесь час, а прысвечаны той знамянальнай падзеі. Самае, таксама важнае, што стагадовы юбілей не заканчваецца ў сакавіку. Многія беларускія арганізацыі і школы цягам усяго 2018 года рэалізуюць далейшыя цікавыя ініцыятывы па гэтай тэме. Мне асабіста выпала быць на ўрачыстай лінейцы ў Бельску-Падляшскім і хачу сказаць толькі адно: так эстэтычнай і насычанай у гістарычным плане праграмы даўно мне не давялося бачыць. Вялікае дзякуй самім вучням за ідэі, думкі і мастацкае выкананне таго, што прыдумалі. Зразумела, без падтрымкі настаўнікаў тут не абышлося, але дух свабоднай і неабмежаванай творчай прасторы адчуваўся ў кожным пункце праграмы, уключна з мастацкім афармленнем інтэр'ера школы. Няхай словамі падзякі будзе тое адчуванне, калі раз-пораз дрыжыкі праходзілі па маёй спіне. А выкананне ўжывую школьным калектывам рэлігійнага гімна «Магутны Божа» для мяне — гэта ўспамін спалучаны з надзеяй на будучыню.

Менавіта надзея без змрочнасці гэта тыя эмоцыі, якія спадарожнічалі і цэнтральным святкаванням у беластоцкай філармоніі. Святкавалі мы як людзі вольныя і роўныя іншым народам. Вельмі дзякую арганізацыйнаму камітэту і ягоным прыхільнікам за ўзняты выклік і праведзеныя дзеянні. Перапоўнены зал — гэта наша найлепшая падзяка ўсім тым, якія на працягу стагоддзя не толькі словамі, але і сваім жыццём ахвяроўвалі сябе ідэалам беларускай незалежнасці і дзяржаўнасці. Менавіта гэтыя святкаванні паказалі, што пераемнасць пакаленняў тут у нас, на Беласточчыне, гэта на шчасце яшчэ не пустыя словы. Цешыць таксама, што ўпершыню са святам стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі павіншаваў усіх беларусаў прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда, а Гарадская рада Беластока ў панядзелак 26 сакавіка прыняла адмысловую рэзалюцыю, прысвечаную беларускаму святу. Гэта таксама значыць, што мы з'яўляемся неад'емнай часткай грамадзянскай супольнасці Польшчы і так як ад вякоў былі, ёсць і будзем надалей у сябе. Беларусы Беласточчыны, Польшчы, Беларусі і ўсяго свету паказалі тую важную ўмеласць і патрэбу **Б**ыць **Н**ам **Р**азам у гістарычных момантах, нягледзячы на праваікацыі і неадназначныя дзеянні самой улады ў Рэспубліцы Беларусь. Вядомым ёсць аднак факт, што сцэнарыі ўлады не бываюць вечнымі. І пра тое павінна памятаць сама ўлада, каб зусім не скампраметавацца ў вачах і душах народа, таксама таго, які пражывае па-за межамі духоўнай Бацькаўшчыны.

Моц і ўнутраную сілу духу мы набіраліся ў час багаслужбы і малебна за беларускі народ у царкве святога Яна. Сардэчная падзяка айцу настаяцелю Марку Ваўранюку, айцу Андрэю Кузьму і астатнім святарам за малітвы, а таксама хору за спевы, што з такой любоўю і ўзнёсласцю дзякавалі айцам-заснавальнікам БНР і іхнім спадкаемцам, расцярушаным па ўсім свеце. Маліўшыся пры іконе святой Ефрасінні Полацкай — апякункі беларускага народа і пры часціцы яе мошчаў разам з пісьменнікам родам з Ефрасіннеўскага Полацка Уладзімірам Арловым і ягонай жонкай Валянцінай, адчувалася бязмежная, сімвалічна-містычная беларуская еднасць. Менавіта такія падзеі і здарэнні з'яўляюцца доказам неўміручасці беларускай ідэі, дзяржаўнасці, надзеі.

Таму словы, якімі часта пераклікаліся ўсе ўдзельнікі сустрэчы: «Жыве Беларусь!» застаюцца жывымі і запаветнымі наступным святкаванням і пакаленням.

Яўген ВАПА

# Нехта робіць агуркі, а нехта танцы!



❖Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

*Інтэрв'ю з харэографам **Аксанай Прус**, інструктаркай і душой „Падляшскага вянка"*

**Ганна Кандрацюк: — Якое гэта пачуццё, калі Вашы дзеці выступаюць на сцэне разам з Арловым, Тарасэвічам, Вольскім у гонар слаўнай гадавіны 100-годдзя БНР?**

**Аксана Прус:** — Быў такі момант, калі „Вянок" выйшаў разам з малымі на сцэну... І мне аж захацелася плакаць! Але ж не было калі, трэба было глядзець, каб яны не памыліліся... Я вельмі задаволена, што дзеці выйшлі на такі ўзровень, што могуць выступаць на важнай для ўсіх беларусаў гадавіне, што могуць зрабіць прыемны падарунак людзям.

**ГК: — Дзеці выступалі пятнаццаць хвілін. Для Вас, пэўна, быў гэта адзін міг?**

**АП:** — Адзін міг! Ну і міг такі — доўгачаканы. Бо доўга рыхтаваліся да 25 Сакавіка, ведалі, што гэта вельмі сур'ёзная справа. Мы ведалі, што на нас ляжыць вялікая адказнасць, дзеці гэта таксама адчувалі. Некаторыя дзеці перажываюць больш чым я!

Яны ўжо самі маюць свядомасць таго, што яны нясуць беларускую культуру. Яны ўяўляюць ужо вельмі добра, што яны робяць, і хочуць яшчэ больш вучыцца і выступаць, ездзіць усё далей і далей...

**ГК: — Вакол „Падляшскага вянка" вялікі энтузіязм. Скажыце, як матывуеце дзяцей да такой цяжкай, адказнай працы?**

**АП:** — Я вам скажу шчыра, у нашы часы, часы камп'ютарызацыі, дзяцей матываваць цяжка. Раней было лягчэй, цяпер вельмі многа існуе для дзяцей розных забаваў, разрывак. Але ў гэтым сэнсе я чалавек кансерватыўны. Я лічу, што ў першую чаргу матываваць трэба сваім уласным развіццём, каб ты ўбачыў, кім ты быў на пачатку і кім ты становішся далей...

Для некаторых матывацыя — стаць салістам, выйсці на першую лінію, больш пракруціць, зрабіць нейкі цяжкі рух — гэта таксама ёсць матывацыя. І заўсёды, для танцораў матывацыяй з'яўляюцца нейкія выезды, канцэрты. Матывацыяй могуць быць таксама апладысменты, калі ты адчуваеш што людзям падабаецца. У гэтым годзе ў нас галоўная матывацыя гэта выезд на Міжнародны фестываль фальклорных дзіцячых калектываў у Балгарыі.

**ГК: — А як пачалася Ваша прыгода з танцам?**

**АП:** — Ой, яна павінна была пачацца ў 6 гадоў, таму што ў столькі гадоў бралі ў дзіцячы ансамбль танца „Крынічка", які існаваў у Гародні. А пачала ў 9 гадоў...

**ГК: — Вы гараднянка?**

**АП:** — Я там нарадзілася, хаця цэлая сям'я майго бацькі паходзіць з Падляшша.

**ГК: — Адкуль, дакладна?**

**АП:** — Мой дзед, Уладзімір Козак, родам з Вэрстока. Пасля Другой сусветнай вайны ён паехаў за працай і апынуўся на тэрыторыі Савецкага Саюза, але калі ён там уладкаваўся і атрымаў пашпарт, яго перапісалі Казак. Гэта маё хатняе прозвішча. А бабця — родам з Вулькі-Тэрахоўскай каля Чаромхі. Бацька нарадзіўся таксама ў Вэрстоку, але ён сюды доўга не вяртаўся, апошні раз мы прыязджалі на Падляшша ў 70-я гады. А я вярнулася і сама паехала ў Вульку-Тэрахоўскую, знайшла хату, дзе нарадзілася мая бабуля. Знайшла сваякоў. І аказалася, што мая дачка кропля ў кроплю падобная да дачкі маёй кузынкі. Сям'я са стараны бацькі жыве ў Юроўцах пад Беластокам, яны былі на канцэрце ва Універсітэцкім цэнтры культуры і вельмі ганарыліся, што я сюды да іх прыехала.

Ведаю што ў мяне ёсць іншыя сваякі і я буду далей іх шукаць...

**ГК: — Заняткі танца ведзяце на ўзорнай беларускай мове. Гэта ваша хатняя мова, ці проста, вывучаная?**

**АП:** — У маёй сямі размаўлялі па-падляшску, цвёрда, больш па-ўкраінску. Я гэтага не схапіла, але цяпер усё разумею, калі гавораць *па-свойму*. Мая маці з Бабруйшчыны, бабуля расейскіх слоў наогул не ўжывала. Але ж пазней, калі мама паехала вучыцца ў Мінск, яеператвучвалі на рускую мову і яна так размаўляла з бацькам. А калі я трапіла ва ўніверсітэт, а гэта быў час, што ўся навука пераводзілася на беларускую мову, я там пачала карыстацца мовай.

**ГК: — Як беластоцкія дзеці гэта ўспрымаюць?**

**АП:** — Ёсць у нас дзеці, якія ў хаце не размаўляюць па-беларуску. Я часта застанаўлялася, чаму ён не ідзе не ў тую старану, што трэба? Пасля зразумела: дзіця не ведае, пра што гавару. Але яно паглядзіць, куды ўсе пайшлі і таксама ідзе. Я з імі гавару толькі па-беларуску. Гэта была ўмова маёй працы, пані Аліна [Ваўранюк — Г. К.] сказала, каб весці заняткі толькі па-беларуску. Ведаеце, я ўзрадавалася! Дзякуючы ім, я сама падвучылася. Цяпер, калі ў маіх дзяцей журналісты бралі інтэрв'ю, яны ўжо за словам не лезуць у кішэню. Умеюць расказаць пра беларускі танец па-беларуску.

**ГК: — Давайце, вернемся да Гародні і вашай прыгоды з танцам...**

**АП:** — У шэсць гадоў мяне выбралі да „Крынічкі", але ў мяне былі праблемы з сэрцам і маці пабаялася аддаць мяне на заняткі танца. Мяне запісалі на заняткі рысунку. Гэта ўсё адбывалася ў Палацы хімікаў. І вось калі канчаліся заняткі, я сыходзіла на дол і глядзела праз акно, што робяць мае сяброўкі з „Крынічкі". Я вельмі перажывала, што не магу танчыць. Маці хацела мяне лячыць, але адзін урач сказаў, што лячыць мяне не трэба. Наадварот, ён сказаў, каб больш актыўна займалася выcілкам і рухам. Тады мама змяніла свой падыход і не трымала ўжо мяне пад цёплымі крыламі, не забараняла мне бегаць і стамляцца. І ведаеце, праз гэтае падгляданне праз акно я вывучыла ўвесь матэрыял, які танцавалі дзеці. Калі я ўжо адчула, што мне можна танцаваць, я прыйшла да настаўніцы і кажу: *— Я ў вас хачу займацца!!* А яна на гэта: *— Я цябе не магу ўзяць, бо дзяцей я брала ў шэсць гадоў і ты не вывучыш ужо тых праграмы.* Я кажу: *— Я вашу ўсю праграму ведаю!*А яна: *— Ну, пакажы!*

Я паказала некалькі рухаў і яна сказала так: *— Прыходзіш да нас роўна на месяц. Калі я пагляджу, што надаешся да гэтай справы, застанешся з намі. Не надаешся — да пабачэння!* Гэты першы месяц, можна сказаць, што я зямлю капала нагамі...

Прайшоў месяц. Я вельмі хвалявалася. І вось яна паставіла мяне ў цэнтры і гаворыць: *— Гэтая дзяўчына сёння ў нас найлепшая!*

Гэта быў першы мой поспех і я зразумела, што знаходжуся там, дзе мне трэба быць.

Я танцавала доўга і многа, закончыла гэты мой дзіцячы ўзорны ансамбль танца „Крынічка", які вяла Ніна Леанідаўна Султанава. Вельмі знамяніты харэограф і настаўнік. Яна навучыла мяне таму, чаго я цяпер навучаю дзяцей — дысцыпліны, парадку, супрацы.

Пазней, у сямнаццаць гадоў я трапіла ў дарослы калектыў „Вянок", таксама да вельмі знанага ў Беларусі харэографа, самародка, знакамітага Мікалая Міхайлавіча Акаракава.

**ГК: — У Вас вельмі шырокая мастацкая адукацыя?**

**АП:** — Я думала, што танец гэта будзе маё хобі. Я скончыла школу з залатым медалём і хацела займацца фізікай, матэматыкай, паступала ў Маскву на факультэт кібернетыкі, і ведаеце — Бог мне не даў туды паступіць! Пазней у Гродне таксама не паступіла — гэта быў лёс. І тады я аддала дакументы ў Гарадзенскі каледж мастацтва. Паступіла на харэаграфічнае аддзяленне і папала ў клас заслужанага настаўніка Рэспублікі Беларусь, да Яўгеніі Фамінічнай Рассудоўскай — там я зразумела, што такое прафесійны танец. І пасля каледжа я пачала працаваць. Хоць мне здавалася, што я павінна асягнуць яшчэ нешта больш. Я паступіла ў Гарадзенскі ўніверсітэт культуры і мастацтваў на тэатразнаўства. Скончыла таксама аспірантуру па спецыяльнасці тэорыя і гісторыя мастацтва. У прафесійным жыцці, апрача харэаграфіі,выкладала яшчэ тэорыю сусветнага мастацтва. І гэта мяне вельмі цікавіла. Мне здавалася, што туды павінна прыкласці свае сілы. У школе № 29 у Гародні, дзе я працавала намеснікам дырэктара ў класах з харэаграфічным ухілам, стварыла дзіцячы калектыў „Ліхтарыкі". Ён і цяпер існуе, гэта ўзорны ансамбль, і я з імі падтрымліваю кантакты, супрацоўнічаю. Пазней я працавала ў каледжы мастацтва, там выкладала гісторыю мастацтваў і харэаграфічныя дысцыпліны на спецыяльнасцях «Харэаграфія» і «Рэжысура». Гэта незвычайны, цікавы кавалак майго жыцця. Людзі, з якімі я працавала, гэта найздальнейшыя асобы ў Беларусі. Мае былыя студэнты працуюць у знакамітых беларускіх ансамблях «Харошкі"і «Белыя росы», з'яўляюцца акцёрамі Гарадзенскага і Слонімскага драматычных тэатраў, працуюць у дзіцячых танцавальных калектывах.

**ГК: — Беларускія калектывы гэта найперш жанчыны. А ў Вас многа хлопцаў. Якія ў Вас спосабы, каб прыцягнуць іх да танца?**

**АП:** — Проста, я сама валодаю мужчынскай тэхнікай танца. Мы вучыліся ўсіх мужчынскіх рухаў — усё што робіцца на сцэне, што робіцца рукамі. Магу гэта паказаць, а калі можна паказаць, тады навучыш іншых. Каб гэтага не было, то хлопцы так пацерліся б, пацерліся б і пайшлі б...

І яшчэ адчуваю мужчынскі характар танца. Калі я працавала ў Мікалая Міхайлавіча ў „Вянку", там пабачыла мужчынскую сілу танца. Я бачыла як ён працуе з мужчынамі, што трэба сказаць, што рабіць, як зацікавіць. Вялікі ўплыў у каледжы на мяне мела кіраўнік харэаграфічнага аддзялення, заслужаны дзеяч мастацтва РБ Наталля Паўлаўна Парахневіч. Было чаму павучыцца ў гэтага чалавека. Я вельмі многа працавала з ёй у кваліфікацыйнай камісіі па харэаграфічнай спецыяльнасці. Там я пабачыла ўсе новыя спосабы працы з моладдзю, як дасягаць вынік.

**ГК: — А скажыце, як трапілі Вы ў Беласток?**

**АП:** — У Беласток я выйшла замуж. Нават не буду ўкрываць, бо ў нашых часах такое здараецца, мы пазнаёміліся праз сацыяльныя сеткі, у інтэрнэце. Пабачыліся раз і рашылі пажаніцца. У другі раз думалі, як так зрабіць, каб быць разам. Я сама была моцна здзіўлена такому выпадку, каб раз сустрэцца і ведаць, што гэта той чалавек, з якім хочаш быць разам у жыцці...

**ГК: — Працаваць пачалі зразу ў аб'яднанні АБ-БА?**

**АП:** — Я ездзіла ў польскае міністэрства адукацыі, там мне пацвердзілі маю адукацыю, далі тытул магістра, але ўсюды, дзе б не хадзіла, мяне не хацелі ўзяць на працу. Спачатку я працавала прыбіральшчыцай.

**ГК: — З вашай далікатнасцю?**

**АП:** — А я не наракаю. Люблю, калі навокал парадак...

З АБ-БАй звязала мяне Галіна Бэдэнічук з Радыё Рацыя. Яна калісьці вучылася ў нашым каледжы. На адной імпрэзе я спытала, ці камусьці тут былі б патрэбныя беларускія танцы. Яна скантактавала мяне з паняй Алінай і мяне адразу запрасілі на нейкі

праця͏г ☞ 11

# Расстроеная зладжанасць

Жыццё мяняецца, відаць гэта ў гарадах, а асабліва на г.зв. правінцыі. Вёскі пусцеюць, разрастаюцца гарады, а гэта ўсё шырока ўплывае на прыроду. Вось у Орлі на мой — і не толькі мой — панадворак прыходзіць ліса, хаця ў мяне няма ніводнай курыцы. Ну, але па чарзе.

Чалавек ад золаку свайго існавання жыве ў нейкім сімбіёзе з прыродай. Некаторыя віды жывёл прыручыў, дзікія звяры жывуць на свой лад, але сярод іх ёсць такія, якія карыстаюцца працай чалавека. Для людзей гэта шкоднікі, часам нават пагрозлівыя, як напрыклад дзікі на лугах, палях ці ў жылых кварталах гарадоў.

Буйнеючыя гарадскія кварталы ўваходзяць на падлесныя тэрыторыі. Вось вясной 2002 года велізарны лось, спалохаўшыся, павіс на высокай металічнай агароджы беластоцкай нерухомасці і пакутліва сканаў.

Прысядзібныя агароды па прычыне розных модных шыпулькавых дрэў часта вабяць нечаканых дагэтуль побач людскіх сядзіб птушак. Тыя, якія будуюць гнёзды, прыхаваныя нізка ў кустах ядлоўцу, падвяргаюцца небяспецы і разам з птушанятамі знікаюць дзякуючы катам або каменным куніцам (беладушкам).

Паколькі ў гарадах буйнеючыя кварталы ўваходзяць на лясныя тэрыторыі, то ў пусцеючых вёсках самасейны лес наступае на сядзібы. І ў абодвух выпадках прырода, у тым ліку і звярына, напамінае пра сваё, ствараючы людзям няёмкія абставіны.

Асабліва жыхары вёсак, што жывуць побач лесу, сустракаюць у сябе каменную куніцу, а нават лясных куніц (жаўтадушак). Беладушка гэта драпежнік, які з'ядае ўсё дастурнае — розных млекакормячых, а таксама садавіну: яблыкі, слівы і т.п. Вельмі любяць сушаныя фрукты, што бываюць недзе на гарышчах і могуць там нават закласці гняздо для выводу маладняку. Калісь я сам пераканаўся, што куніца выкрадае маладых трусікаў, выкрадае яйкі з куратніка, а таксама забірае вараныя яйкі з магілак, якія людзі пакідаюць пасля Вялікадня на могілках. Я жыву побач могілак і ведаю, што куніца пасля закопвае тыя яйкі ў агародзе. Сустрэча чалавека з куніцай, калі яна адчувае пагрозу, можа быць вельмі небяспечнай.

Многія віды звяроў, якія насялялі аблесеную раней нашу тэрыторыю, жывуць надалей у змененым чалавекам краявідзе. Тхор гэта паспаліты звярок, бачны побач вясковых сядзіб і вядомы шкодамі, якіх дапускаецца ў куратніках, лёгка падкопваецца і праціскаецца цераз вузкія шчыліны, выкрадае яйкі хатніх птушак і трусоў.

У чалавечым рэйтынгу прыроды тхор бачыцца пагарджаным звярком, смярдзючым. Найбольш тхароў гіне ў капканах сялян і браканьераў; не спрыяе яму таксама сучасная сельская гаспадарка (хімізацыя).

Адзначу, што адзін гаспадар прызнаўся мне ва ўпэўненасці, што калі тхор жыве ў панадворку гаспадара, то не ўчыняе ніякай шкоды.

Вавёрка з'яўляецца самай паспалітай жыхаркай нашых лясоў і паркаў, часта сустракаем яе ў вясковых садах, а нават бегаючую ўздзень па вуліцах. У Еўропе і ў Азіі выступае каля двухсот парод гэтых звяркоў, у Польшчы — дзве: з бурашэрым хрыбтом у сасновых лясах і бура-чорным у яловых і піхтавых у горах. Я часта сустракаю вавёрку схаваную ў голлі яблыні ў летнюю спёку. Восенню ў вавёрак большы апетыт і яны вельмі



ўсхваляваныя. Гэта перыяд назапашвання харчоў на зіму: жалудоў, арэхаў, насення буку. Аднак яны не запамінаюць месцаў кожнай закапанай у розных месцах кладоўкі. Дзякуючы гэтаму неўзабаве з зямлі вырастаюць многія маладыя дубочкі...

Вяртаючыся да згаданай лісы — у самой Орлі людзі амаль не гадуюць свойскіх птушак, магчыма, што толькі пяць асоб. Мая далейшая суседка Галіна каля года таму наракала, што нейкія сабакі падушылі і парасцягалі ейных курэй. Гэта страта, бо былі свае добрыя яйкі. І для іншых таксама страта, бо калі ёсць пакойнік, то ў царкву на паховіны, а пасля на „саракавую" і „ракавую" традыцыйна стаўляецца 12 яек і кілаграм рысу. А яйкі павінны быць не з крамы, але свойскія.

Справа задушэння курэй высветлілася — гэта не сабакі, а ліса, якая кватаравала каля двухсот метраў ад суседкі Галіны і каля сямідзесяці ад майго панадворка. На акраіне лесу Лапінскага, які па-суседску з могілкамі, на крутым абрыве ліса зрабіла нару. Спярша адну, а пасля нейкага часу навокал з'явілася ўжо пяць нор. Нара лісы можа мець да трыццаці метраў даўжыні з некалькімі ўваходамі. Пасярэдзіне нары ёсць камора, у якой ліса шчэніцца.

Мой калега Мірэк, які працуе па начных зменах, кажа, што неаднаразова чуе лісінае браханне на акраінах Орлі; яно дзіўнае і нагадвае нейкі плач дзіцяці.

Цягам 1994-2008 гадоў (паводле прыродазнаўцаў) лік лісоў у краіне ўзбуйнеў у чатыры разы (з прыблізна 67 тысяч да 240 тысяч). Гэта ўсеедная звярына з перавагай жывёльнага корму. У красавіку прыйдуць на свет маладыя лісіцы, якія пасля дзесяці месяцаў дасягаюць палавую спеласць. Ліса жыве да дванаццаці гадоў.

Гэта лісоў вінавацяць у трывожным спадзе пагалоўя зайцоў: з трох з паловай мільёна ў мінулым стагоддзі да паўмільёна сённяя; гэтаксама маюцца справы з курапаткамі. Едучы з Орлі ў Бельск часта дарогу перасякаюць нам лісы. Лік лісоў узбуйняюць скідваныя з самалётаў вакцыны.

Амаль у кожнай цывілізацыі звяры маюць сваю спецыфічную сімволіку, якая служыла ілюстраванню некаторых характараў. У Евангеліі ад Лукі (13:32) Ісус назваў Ірада каварным лісом. У сатырычных сцэнах ліса адназначна лічыцца сімвалам хітрасці і пранырлівасці, а таксама як выява сатаны. У іканаграфіі ліса ілюструе зло.

Міхал МІНЦЭВІЧ



Галіна БІРЫЦКАЯ
Плянта, Нараўчанская гміна





Зінаіда КАНДРАЦЮК
Беласток

## Успаміны аб мінулым

Калі хадзіла я ў школу, дарога вельмі далёкая была. Калі гаспадары зааруць поле ды пасеюць збожжа, лён і пасадзяць бульбу, тады людзі пратоптвалі сцежку напрасткі, каб было бліжэй. Мы, дзеці, тою сцежкай хадзілі ў школу.

Найпрыгажэй было вясной ды летам, калі расцвіталі ўсялякія кветкі ў полі — валошкі, куколь, макі і рамонкі. А над жытам, як вецер павее, узносіліся малыя хмаркі пылку — гэта была раса квітнеючага жыта. На каласах быў цвет, каб завязалася ў калоссі зерне. Цяпер поле зарастае пустазеллем, або пасаджаны там лес — мала дзе ўбачыш жыта.

Я на сваім агародзе кожны год сею загонец жыта, ёсць у ім куколь, валошкі і макі. Летам усё падыходжу і пагдядаю, калі жыта будзе расаваць. Калісь людзі гаварылі, што трэба першаю расою з жыта твар выціраць — тады будзеш харошы і гладкі...

Хоць я ўжо немаладая, пенсіянерка, баліць усё. Калі стану каля свайго жыта, пагляджу, як яно расуе, як у ім цвітуць кветкі, тады мне здаецца, што я, як калісь, маладая, і нічога мне не баліць.

## Лавачка

Каля свайго плота на вуліцы
Лавачку я зрабіла,
Каб адпачыць і пагаварыць
Суседзяў яна маніла.
Добра было спатыкацца,
З суседзямі вечарам сёе-тое расказаць,
Бо назаўтра ў поле
Трэба было рана ўставаць.
Бабуля ўжо не дала рады працаваць,
Днём на лавачцы сядзела,
Цешылася сваімі ўнукамі,
Весела, з усмешкаю на іх глядзела.
Унукі павырасталі, у горад павыязджалі,
Праўнукі таксама там жывуць.
На вёску далёка ехаць.
На лавачцы няма каму сядзець.
Жыццё бяжыць, лавачка стаіць.
Бабуля з кіёчкам на лавачку ідзе адна.
Пагдядае, што лавачка старая
І ўсё пра прошлае ўспамінае.

## Мужчына і яго жанчыны

Пра жанчын успамінае, цешыцца, што так многа іх мае. «Каля першае сяджу, на другую пагдядаю, кланяюся трэцяй, яшчэ чацвёртае жадаю. Пятую пацалую, шостую абнімаю. Сёмую абманваю, да восьмай усе думкі маю. Дзявятую на танцы запрашу, а з дзясятаю патанцаваць стараюся. Адзінаццатая думае, што яе мужам буду, дванаццатая жанчына ходзіць за мною ўсюды. Так кончыцца першы тузін жанчын. А трынаццатую хачу дахаты прывесці. Чатырнаццатай падаркі куплю, пятнаццатую як хачу так ашукаю. Шаснаццатай газету пачытаць прывязу, а з сямнаццатай пасяджу і штосьці ёй раскажу.

З васямнаццатай у адпачынак паеду, а з дзевятнаццатай у царкву памаліцца хаджу. Дваццатая кашулі мые мне і абеды варыць. З дваццаць першай заручыўся, а з дваццаць другой пераначаваць дагаварыўся. З дваццаць трэцяй на запаведзі даю, для дваццаць чацвёртай мужыком астаюся. Гэтак два тузіны жанчын кончу. А з дваццаць пятай Бог нас злучыць.

Вы, мае калегі, добра паслухайце, толькі добрых і прыгожых жанчын выбірайце. Калі пажэнімся, будзем кумамі, вы будзеце са мною, а я буду з вамі. Дарагія калегі, я не гарую, адну пакідаю, шукаю другую».

Калега адказаў з усмешкай: «Так табе здаецца! Я жыццё пражыў з адною, а ты глядзі, бо тваё шчасце адвернецца і дажываць у адзіночку табе застанецца!»

## Палітыка і крытыка

Хвароба і зараза — гэта самазахапленне.
Гэта ўсё ў людзях невылечнае. Здаецца, зусім нябачнае, быццам незаўважнае.
Але гэта вялікая праблема!
Хто каму паможа выйсці з гэтай халеры?
Ці хто хоча ёю займацца, лячыць смярдзючую, непрыемную, зусім старую хваробу.
Жыццё ёсць цудоўнае.
Калі ёсць здароўе — спакой душы. Без націску палітыкі і крытыкі.

## Я твая мама

Прыйдзі, мая дачушка.
Прыйдзі, маё сонейка.
Калі цябе ўбачу — жыву тваёй удачай.
Пагаворым, паталкуем.
Перакусім, пасмакуем.
Заўсёды чакаю я цябе.
Нават калі дождж ідзе.

# Я — беларус, але і ўсходняеўрапеец

**Этнолаг і эканаміст. Вышэйшую адукацыю атрымаў на Варшаўскім універсітэце. У час вучобы валачыўся па сакольскіх вёсках, рабіў навуковыя даследаванні і яшчэ больш палюбіў той куток Польшчы, перш за ўсё за культуру і беларускую мову. Пасля магістратуры ў Варшаўскай школе эканомікі з'ехаў у Маскву. Хаця сам радавіты гарадзенец і ў Варшаве, і ў сталіцы Расіі заўсёды знаходзіў беларускую суполку. Алесь Буранок вёў у Маскве курсы беларускай мовы «Мова ці кава», якія збіралі нават па трыццаць удзельнікаў.**




**«Ніва»: — Якім чынам такі ідэйны, заангажаваны беларус апынуўся ў Расіі?**

**Алесь:** — Я паехаў на студэнцкі абмен у Маскву. Прыехаў, пачаў вучыцца, але пры гэтым была магчымасць працаваць. Ну вось знайшоў працу і так чатыры гады працаваў у Маскве.

**— Разумею, што там Цябе на так доўга затрымалі чыста эканамічныя прычыны?**

— Прычын было даволі шмат, але, вядома, і эканамічныя. Добрая праца, цікавыя магчымасці. Але былі і іншыя справы. Я хацеў крышачку памяняць атмасферу пасля Польшчы, мець досвед жыцця ў іншай краіне. У расейцаў вельмі прыязны стасунак да беларусаў як да працаўнікоў. Было вельмі прыемна працаваць там, калі да цябе лепш ставяцца нават чым да расейцаў.

**— Скуль такая вялікая сімпатыя ў расейцаў да беларусаў?**

— Так, сімпатыя ёсць таму, што існуе такі стэрэатып, што беларусы добрыя працаўнікі, робяць тое, што ім кажуць, яны даволі бесканфліктныя... Ну і што скрываць, існуе такі стэрэатып, што беларусы менш п'юць чым расейцы.

**— У Польшчы часам паяўляюцца інфармацыі, што палякі горш трактуюць украінскіх працаўнікоў. Гаворыцца, што часам іх нават выкарыстоўваюць. У Расіі Ты не меў такога адчування?**

— Там крышачку па-іншаму. Трэба не забывацца, што Беларусь для расейцаў гэта Захад. То-бок, у іхнім успрыманні мы бліжэй да Еўропы. Можа відаць гэтае горшае стаўленне да людзей з Каўказа, але да беларусаў не. Беларусы больш еўрапейцы.

**— Ты даволі актыўна ўдзельнічаў у розных беларускіх акцыях, ангажаваўся ў арганізацыю беларускіх мерапрыемстваў, напрыклад у «Салідарныя з Беларуссю». Ці ў Маскве не бракавала Табе беларускага жыцця?**

— У прынцыпе там таксама ёсць беларускае жыццё, можа не такое актыўнае як у Польшчы. Яно больш культурнае, амаль не звязанае з палітыкай. Пры гэтым ёсць там таксама беларускія суполкі, бываюць беларускія гурты. У прынцыпе беларускае жыццё там таксама існуе. Я лічу, што Беларусь там — дзе я, там — дзе беларускія сябры.

**— У Маскве Ты таксама меў беларускамоўных, ці проста сяброў з Беларусі, якія маюць падобныя погляды да Тваіх?**

— Так, я маю беларускамоўных сяброў у Маскве, класныя людзі. Дзякуючы ім адбываюцца ўсе беларускія канцэрты і сустрэчы з беларускімі гісторыкамі ці навукоўцамі.

**— А Ты размаўляў адкрыта з расейцамі пра палітыку?**

— Пра палітыку... У нас часам розныя погляды, спрачаемся, але тут трэба зрабіць такую заўвагу, што Масква гэта нетыповая Расія. Там даволі шмат ліберальных людзей, з ліберальнымі поглядамі, з якімі вельмі цікава паразмаўляць, падзяліцца сваімі думкамі. Хаця мушу зрабіць яшчэ адну заўвагу, што расейская імперскасць адчуваецца там нават у выказваннях ліберальных людзей.

**— З чым для расейцаў асацыююцца Беларусь і беларусы?**

— У расейцаў я сустрэўся з тым, што яны даволі мала ведаюць пра іншыя краіны.

**— Засяродзіліся на сабе? Беларусь побач з Расіяй і, наколькі ведаю, беларусаў там шмат.**

— Так, больш засяродзіліся на сабе (*смех*). Наконт Беларусі, вядома, першая асацыяцыя гэта Лукашэнка. Крыху з яго падсмейваюцца, кажуць, што цэлая беларуская стабільнасць трымаецца за кошт рускага газу. Гэта так званы беларускі эканамічны цуд. Яны параўноўваюць Беларусь з тым, як было ў Савецкім Саюзе раней. Для іх гэта такі палепшаны Савецкі Саюз. Хаця зноў, у майго сябры была іншая цікавая рэч. Ён размаўляў са сваёй супрацоўніцай пра Беларусь і яна сказала: «Ну, гэта датацыйны рэгіён Расіі». Гэта такі прыклад, як мала расейцы ведаюць пра краіны, якія знаходзяцца побач.

**— Твае аднагодкі, якія працуюць у Расіі, хочуць вярнуцца на бацькаўшчыну, маюць такі намер?**

— Мае сябры, пераважна хочуць вярнуцца на Беларусь, але цяжкая эканамічная сітуацыя на Беларусі гэтаму не спрыяе. Ну, канешне, ёсць таксама і такія сябры, якія абраслі сем'ямі, кантактамі, закараніліся ў Маскве. Яны дзейнічаюць на карысць Беларусі, але там у Расіі. Жывуць на Беларусі, але на адлегласць.

**— Ты са сталіцы Расеі перасяліўся ў сталіцу Польшчы. Не цягне Цябе ў родную Гародню?**

— Я — гарадзенец, беларус, але таксама еўрапеец. Вельмі люблю свой родны горад. На жаль, эканамічная сітуацыя на Беларусі не дазваляе на развіццё. Я сам меў нейкія планы, каб раскруціць нейкі бізнес у Гародні, але там людзі зараз жывуць сціпла.

**— Вернешся, калі паправіцца сітуацыя? Верыш у хуткія змены на Беларусі?**

— Я лічу, што гэта пытанне часу. Вельмі хацелася б жыць, развівацца, працаваць, зарабляць годны заробак на сваёй радзіме.

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**



## Найлепшыя юныя скульптары

21 сакавіка гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбыўся конкурс разьбы ў гліне. Тэмай конкурсу былі птушкі. Удзельнічалі ў ім 50 вучняў з пачатковых школ і гімназій у Нараўцы і Чыжах. Падчас спаборніцтваў панавала прыемная атмасфера.

У катэгорыі I-III класаў пачатковых школ першае месца заняла Вікторыя Сухадола, другое месца — Габрыеля Скепка і трэцяе месца — Барташ Панфілюк.

У катэгорыі IV-VII класаў пачатковых школ тры раўнапраўныя першыя месцы занялі Габрыеля Краснапольская, Лукаш Янцэвіч і Юлія Ахрымюк, тры раўнапраўныя другія месцы — Алівія Харкевіч, Аляксандра Лушынская і Мартына Саковіч ды чатыры раўнапраўныя трэція месцы занялі Ян Васільчык, Магдаліна Пупэк, Юлія Купрыяновіч і Магдаліна Янкоўская. Узнагароду дырэктаркі Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы атрымала Мартына Каліноўская.

Сярод гімназістаў першае месца заваявала Мартына Белавежац, другое — Рыгор Саковіч і трэцяе — Матэвуш Малашкевіч.

Пераможцы — было іх шаснаццаць — у конкурсе на найпрыгажэйшыя выявы нашых крылатых сяброў атрымалі прыгожыя дыпломы ад арганізатараў (святліца і ГАК) ды рачавыя ўзнагароды ад спонсара — засакрэчанай фірмы OPV у Старым Ляўкове.

## Нараўчанскія вышывальшчыцы

Шматлікія вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета займаюцца ручной вышыўкай. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, белыя навалачкі на падушкі і святочныя белыя кашулі, а таксама карціны. Да гэтага трэба мець замілаванне і вялікую цярплівасць. Вышывальшчыцы каляровыя ніткі купляюць у крамах з махрой і мулінэ.

Вышыўкай займаюцца, між іншым, Тамара Скепка з Забрадоў, Яўгенія Смольская, Ірэна Казлоўская, Марыя Целушэцкая і Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк, Крыстына Паскробка, Міраслава Балтрамюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч з Лешукоў, Данута Каліноўская з Новага Масева, Лена Харкевіч, Малгажата Краўчык, Галіна Бірыцкая і Людміла Зданоўская (бяруць яны ўдзел у конкурсе на гафт і карункі, які шмат гадоў арганізуе Гайнаўскі дом культуры) з Плянты ды Альжбета Матысюк і Галіна Панкоўская з Семяноўкі. **(яц)**

## XV выпуск плебісцыту „Віртуальныя гуслі"

Рушыў XV выпуск плебісцыту „Віртуальныя гуслі" на фолькавую кружэлку года. Галасаванне пачалося апоўдні 19 сакавіка і будзе доўжыцца да 30 красавіка на сайце http://www.gesle.folk.pl Гэтым разам інтэрнаўты з ліку 84 альбомаў будуць выбіраць найлепшы кампакт-дыск 2017 года з шырока разуметай фолькавай музыкай: традыцыйнага і этнічнага жанраў, музыкай свету ды іншых крыніц. Таксама кожны ўдзельнік мае магчымасць выбраць самую прыгожую вокладку кружэлкі. Спецыфікай фолькавай музыкі з'яўляецца разнароднасць і багацце інспірацыі, заадно стылістычных, як і геаграфічных: ад традыцыі і крыніц (вясковых музыкантаў) па сучасную музыку, рок, фольк-джаз ці фольк-метал; ад традыцыйнай польскай музыкі (гарадской і вясковай), па інспірацыі блізкімі і далёкімі культурамі ўсяго свету. Сярод кампакт-дыскаў заяўленых „Віртуальным гуслям" знойдзем усю разнароднасць і багацце музычных думак.

Першым лаўрэатам фолькавага плебісцыту 1993 года быў гурт „Чарамшына" за кружэлку „Hulaj póki czas", а апошнім — 2016 года Варшаўскі сентыментальны аркестр за пласцінку „Umówmy się na dziś". **(УС)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Смачны Вялікдзень!



фота Улі Шубзды

— Вы чакаеце валачобнага ад хросных бацькоў? — спыталі мы гайнаўскіх сяброў.

У класе запанавала маўчанне па простай прычыне — слова «валачобнае», якое калісь вымаўляла з пяшчотай кожнае беларускае дзіцятка, выйшла сёння з моды. Ну і падарункі ў нас сталі дарыць не ў вясновы Вялікдзень, а на зімовыя Каляды...

Мы самі паехалі ў пачатковую школу № 1, каб завезці ўзнагароды «Зоркі». Амаль усе вучні Анны Франкоўскай падпісваюцца на «Ніву» і кожны тыдзень дасылаюць нам рашэнні крыжаванак і загадак.

— Ой, як класна! Паеду на веласіпедную экскурсію па Белавежскай пушчы, — цешыцца прыгажуня з апошняй парты.

Аня Кендысь, бо пра яе мова, выйграла даведнік пра Белавежскую пушчу з пазначанымі шляхамі для вандровак і язды на веласіпедзе. Задуму можна ўжо ажыццявіць у час бліжэйшага Вялікадня.

— А мы чакаем Вялікадня, каб пайсці на ўсяночую ў царкву, — заяўляюць дзве Олі з першай парты.

Дзяўчаткі спяваюць у царкоўным хоры. Такая нагода бывае два разы ў год, нельга яе праспаць.

— Вытрымаеце на нагах усю ноч?

— Вядома, — смяюцца дзяўчаткі, — мы ж маладыя!

— А я люблю есці велікодныя стравы, — заяўляе Віктар Лінк. — Такія стравы, якія раней асвечаныя ў царкве... А найбольш люблю свойскую каўбаску!

Віктар сёння прымаў удзел у гарадскім конкурсе матэматыкаў і заваяваў другое месца. Апрача задач трэба было справіцца з кубікам Рубіка.

— Я яшчэ не ведаю, як вокамгненна скласці колеры, але ў мяне ёсць сябар, які патрабуе на гэта секунды... — адзначае таленавіты матэматык.



фота Ганны Кандрацюк

Большасць дзяцей па прычыне эпідэміі грыпу не прыйшла сёння на ўрокі. На другі ўрок завітаў Матэвуш Зыскоўскі.

— Ён наш інфарматык, — кажа спадарыня Анна, — ведае ўсё пра камп'ютары і інтэрнэт.

Матэвуш смяецца ў адказ. Ён, як усе сябры, найбольш любіць рашаць крыжаванкі:

— Адзін раз мы так разахвоціліся, што нават рашылі ніўскую крыжаванку для дарослых!

У час сустрэчы мы гаварылі пра велікодныя гульні. Вучні ведалі пра ігру «ў выбіткі». Той, хто разаб'е найбольш яек і захавае цэлым сваё, бярэ для сябе ўсе патоўчаныя крашанкі.

— Я памятаю, што наш дзед спецыяльна састаўляў дошкі, па якіх мы качалі яйкі і гулялі ў жалубец, — успамінае настаўніца.

— А вы чулі пра «жалубец»? — пытаем у класе.

— Цяпер ужо пачулі! — адказваюць з усмешкай сябры.

Усе пажадалі сабе радасных Свят і цёплага надвор'я, бо тады ўсё больш смакуе і цешыць. Ну і можна выправіцца на першую веласіпедную вандроўку па Белавежскай пушчы.

З Вялікаднем, сябры!

Зорка

Міра ЛУКША

## Велікоднае свята

Вялікая Ноч.
Вялікі Дзень.
Цемры спрадвечнай
знікае цень.
Выпаўніў Слова
Хрыстос — Божы Сын.
За ўсіх нас ахвярай
стаў Ён Адзін.
Пакарыў смерць
Госпад наш, Чалавек,
Нат у Пекла ўвайшоў,
каб нас збавіць спрадвек.
Зведаў Ён боль, пакуты і жах,
адчуў чалавечыя боязь і страх.
Святое Жыццё за нас Ён аддаў.
Дарогу да Бога
нам усім паказаў.
Праўда. Святло. Надзея. Любоў.
Не дарам праліта
Ісусава Кроў.

## УВАГА КОНКУРС! № 14-18

На сцяблінцы на калматай
шэсць пялёсткаў лілаватых.
Кветка гэтая ў сне
ўсміхаецца вясне.
С..-т....

(Васіль Жуковіч)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 15 красавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 10-2018: жаваранак. Кніжкі з аўтографам Міры Лукшы «Спеў дрэў» выйгралі Оля Несцярук, Наталля Габрусь, Адрыян Гарашкевіч, Клаўдзія Пень, Мікола Троц, Каміля Бутко, Давід Кавалко з бельскай «тройкі». Віншуем!

# Мой герой — беларус!

## Конкурс на 100-годдзе БНР

Дарагія сябры! Сёлета адзначаем сотую гадавіну Акта 25 Сакавіка — Свята Волі, дзень, які адзначаюць тысячы беларусаў у цэлым свеце. У нас, на Падляшшы ўкаранілася традыцыя святкавання. Пра свята гаворым на ўроках беларускай мовы і на школьных лінейках, у сям'і і на мастацкіх мерапрыемствах.

Каб годна і творча адзначыць сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, мы прыдумалі для вас святочны конкурс. Вашай задачай будзе напісаць твор на тэму:

**МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!**

Падумаеце — хто такі можа стаць вашым героем?

Перад вамі шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці:

— вашым героем можа стаць тата, брат, мама, сястра, дзед, цёця, бабуля ці іншы сваяк або любы знаёмы...

— настаўнік, мастацкі інструктар, апякун праекта...

— гістарычны персанаж, пісьменнік, грамадскі дзеяч, журналіст, мастак...

— ваш любімы літаратурны герой...

— ваш сябра або сімпатыя...

Конкурсныя працы можаце напісаць у форме верша, апавядання або журналісцкіх жанраў — рэпартажа, фельетона, эсэ, інтэрв'ю.

Працы будуць ацэнены адмысловай камісіяй, якая назначыць супер файныя ўзнагароды — веласіпед, беларускія кніжкі і CD з беларускай музыкай, запрашэнне на журналісцка-мастацкія майстаркласы Сустрэчы «Зоркі».

Конкурсныя працы дасылайце да 1 мая 2018 года.

Конкурс прадбачаны для вучняў пачатковых школ і гімназій. Не адкладвайце задачу, пачніце думаць, рыхтавацца і пісаць ужо сёння.

**Ганна Кандрацюк**

Сшытак Олі Кобусь з Бельска-Падляшскага

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Малітва мачыхі

Ва ўдавы-мачыхі была карова, а ў пасынка быў асёл. Хлапчук краў сена падрыхтаванае для каровы і карміў ім асла. І пачала ўдава прасіць Бога, каб захварэў асёл, але ў выніку яе прашэнняў здохла карова. Удава плакала і сказала: «Бедная мая галоўка, мае малітвы падзейнічалі наадварот! Божа мілы! Як жа Ты мог не адрозніць каровы ад асла?!».

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# БЕЛАРУСКАЯ СТРАЛЬБА!

Ужо трэці раз адбыліся спаборніцтвы па стральбе. Часта мне гімназісты кажуць, што гэта найфайнейшы беларускі конкурс! Падумаеце — чаму стральба «беларуская»?

А таму, што ідэю прыдумала і яе ажыццяўляе настаўніца беларускай мовы Альжбета Рудкоўская з Беластока. Натхнілі яе вучні і поспехі па стральбе вучаніцы Касі Бялькевіч.

— Кася дапамагае мне штогод, — адзначае настаўніца.

У гэты раз прыехалі каманды з Бельска-Падляшскага, Орлі і Гайнаўкі. Гайнаўку, як не цікава, прадстаўлялі адны дзяўчаты (!). А пераможцамі сталі:

І месца — Гімназія ў Орлі,

ІІ месца — Гімназія № 7 у Беластоку,

ІІІ месца — Гімназія з «бельскай» тройкі.

Першае месца ў індывідуальнай стральбе заняў Раман Орда з Орлі (99/100), другое — Дам'ян Васілюк з Бельска-Падляшскага (96/100), трэцяе — Марк Іванюк з Орлі (95/100).

Пераможца страляў вострымі боепрыпасамі.

**(зор)**

Пераможцы Раман Орда, Дам'ян Васілюк, Марк Іванюк.

Грыша ХАРУЖЫ
ПШ у Міхалове

## Ферма і брацік

Маё любімае месца гэта ферма.
Я люблю жывёл,
Люблю, калі пры мне яны,
Каровы, гусі, сабакі, бараны...
Здаецца, да мяне гавораць яны.
Калі я гаспадару,
Мой брацік прыглядаецца мне,
Бо ён вучыцца ад мяне!

## Польска-беларуская крыжаванка № 14-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10-2018:**

Рап, брычка, рулі, касміт, кум, на, так, ага, парасон, Беларусь, не, брат, навіна. Рука, Ала, пена, пісталет, мара, Ікар, рот, сума, канькі, круг, маліна.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі **Юлія Ваўтанюк, Марцін Панасюк, Юлія Высоцкая, Дам'ян Карнілюк, Дар'я Чарняўская, Куба Мартынюк** з бельскай «тройкі», **Габрыела Красько, Зузанна Мішчук, Якуб Аврчук, Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Дамініка Жук, Лена Хадакоўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!

Ara, Pradziadek, Bierz, Naleśnik, Słońce, Osika, As, Duchowny, Próba, Bierz, Irka, Nie, Lwów, Jał, Siła, Gwiazda Polarna, Wiosna, Wielkanoc, Witka gałąź, Nil, No, Łata, Bądź zdrów, No, Jary

# Вечарына з праваслаўнай кнігай

**Многа асоб прыцягнула Вечарына з праваслаўнай кнігай, якая 19 сакавіка прайшла ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім у рамках IV Пралога — Дзён славянскай пісьмовасці і культуры з удзелам гасцей з Рэспублікі Беларусь. Адбыліся там прэзентацыі выдадзеных на беларускай мове Новага запавету, што быў надрукаваны ў перакладзе са старагрэчаскай мовы, зробленым Біблейскай камісіяй Беларускай праваслаўнай царквы і кнігі Францыска Скарыны «Прадмовы і пасляслоўі да кніг Бібліі». Прэзентаваліся ў час вечарыны таксама імпазантны біяграфічны даведнік айца Грыгорыя Сасны і матушкі Антаніны Троц-Сасны «Іерархія, клір і працаўнікі Праваслаўнай царквы XIX-XXI стагоддзяў у межах II Рэчы Паспалітай і пасляваеннай Польшчы» і кніга Дарафея Фіёніка «Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч».**

Вечарына пачалася з выканання ліцэйскім калектывам «Спадчына» гімна «Магутны Божа».

— Праз два дні ў нашай школе і ў бліжэйшую нядзелю ў Беластоку адбудуцца святкаванні сотых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — гэта вялікае свята для нас, беларусаў. Вечарына з беларускай праваслаўнай кнігай і гімн «Магутны Божа» далі пачатак святкаванню, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

У пачатку вечарыны, якая праходзіла ў выдатнай большасці на беларускай літаратурнай мове, дырэктар белліцэя прывітаў архіепіскапа бельскага Грыгорыя, свяшчэннікаў, матушку Антаніну Троц-Сасну, гасцей з Рэспублікі Беларусь і старшыню Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафея Фіёніка. Вітаў таксама бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслава Бароўскага, войта Бельскай гміны Раісу Раецкую, дырэктар бельскай «тройкі» Іаанну Каліноўскую, былога дырэктара Бельскага белліцэя Аляксея Карпюка, вучняў, выпускнікоў і настаўнікаў белліцэя і астатніх удзельнікаў сустрэчы.

Архіепіскап Грыгорый перадаў паклон Беларускай праваслаўнай царкве і беларускаму народу, звяртаючы ўвагу на гістарычнае адзінства Царквы ў Польшчы з БПЦ. Уладыка Грыгорый павіншаваў калектыў перакладчыкаў Біблейскай камісіі БПЦ з выхадам Новага запавету на беларускай мове і адзначыў значэнне перакладання Новага запавету і ўсёй Бібліі на беларускую і іншыя сучасныя мовы. Звярнуў таксама ўвагу на вялікую адказнасць перакладчыкаў, паколькі словы бываюць шматзначнымі, што можа скажаць пераказ, і дабавіў, што перакладчыкам павінна спадарожнічаць пакора, якая дапамагае пазбегнуць памылак.

— Сённяшняя вечарына з праваслаўнай кнігай з'яўляецца інаўгурацыяй IV Пралога — Дзён славянскай пісьмовасці і культуры ў Бельску-Падляшскім. У Бельску на месцы белліцэя і школы № 3 у мінулым знаходзіўся Мікалаеўскі манастыр і тут у 1496 годзе паўстала найстарэйшая захаваная рукапісная кніга Падляшша — «Пралог» з жыціямі святых, напісаная па заказе Солтана Солтановіча з Бельска, — прыгадаў Дарафей Фіёнік.

Арганізатарамі вечарыны былі Аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах», Пакроўскі праваслаўны прыход у Бельску-Падляшскім, Бельскі белліцэй і Праваслаўнае брацтва Трох віленскіх мучанікаў у Мінску. Дарафей Фіёнік напомніў сабраным, што Новы запавет на беларускай мове, перакладзены Біблейскай камісіяй БПЦ, з'явіўся ў жніўні мінулага года, якраз пяцьсот гадоў пасля выхаду з друку «Псалтыра» Францыска Скарыны. Рэдактар Біблейскай камісіі БПЦ прафесар айцец Сяргей Гардун распавёў пра ранейшыя пераклады Новага запавету на беларускую мову і патлумачыў, чаму быў патрэбны новы пераклад з улікам на выкарыстанне яго падчас багаслужбаў у цэрквах. Ранейшыя пераклады на беларускую мову рабіліся з расійскай, польскай моў і латыні і ў гэтых выданнях паяўляліся паланізмы і русізмы, якіх не было ў беларускай мове. Новы пераклад са старагрэчаскай мовы з улікам граматыкі беларускай мовы, абавязваючай зараз у Рэспубліцы Беларусь, адбываўся на працягу звыш дваццаці пяці гадоў. Багаслоўская лексіка ў перакладзе зацверджана Беларускай праваслаўнай царквой. Прафесар Іван Чарота з Мінска распавёў аб працы Біблейскай камісіі БПЦ і пра складанасці пры перакладзе Новага запавету. Праваслаўнае брацтва Трох віленскіх мучанікаў у Мінску было савыдаўцом кнігі Францыска Скарыны «Прадмовы і пасляслоўі да кніг Бібліі», надрукаванай на беларускай мове і аб гэтай кнізе распавёў старшыня брацтва Мікола Матрунчык. Праф. а. Сяргей Гардун на падставе кнігі «Прадмовы і пасляслоўі да кніг Бібліі» і іншых кніг Францыска Скарыны канстатаваў, што Скарына быў праваслаўным вернікам, аб чым сведчыць добрае веданне ім праваслаўных багаслужбаў і святых Праваслаўнай царквы, чаго не ведаў бы будучы католікам.



■ Вечарыну адкрыў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк


■ Дарафей Фіёнік


■ Рэдактар Біблейскай камісіі БПЦ праф. а. Сяргей Гардун



Падчас вечарыны матушка Антаніна Троц-Сасна запрэзентавала другое выданне пашыранага біяграфічнага даведніка «Іерархія, клір і працаўнікі Праваслаўнай царквы XIX-XXI стагоддзяў у межах II Рэчы Паспалітай і пасляваеннай Польшчы» аўтарства айца Грыгорыя Сасны і матушкі Антаніны. Матушка Антаніна ўдакладніла, што два гады працавала над пашырэннем біяграфічнага даведніка, у якім змешчаны каля 1300 фатаграфій. Матушка Антаніна прыгадала, што яе муж а. Грыгорый Сасна выдаў 40 кніг, якому дапамагала падчас іх рэдагавання. Дарафей Фіёнік сказаў, што тэхнічным рэдактарам другога выдання даведніка пра іерархаў была Марыёля Шыманчук, якая таксама выступіла перад сабранымі.

Дарафей Фіёнік запрэзентаваў сваю кнігу «Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч», выдадзеную Музеем малой айчыны ў Студзіводах у серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў». Апісаў ён у кнізе род Кастыцэвічаў з яго шматлікімі свяшчэннікамі і перш за ўсё жыццё і дзейнасць Яраслава Кастыцэвіча. У кнізе многа цікавых фатаграфій і дакументаў. Апошнім святаром з роду Кастыцэвічаў быў айцец Васілій, бацька народжанага ў 1896 годзе ў Пасынках Яраслава. Яго дзед і прадзед — таксама свяшчэннікі, пахаваныя каля царквы ў Пасынках. У 1907 годзе бацька Яраслава, айцец Васілій, быў назначаны настаяцелем Свята-Троіцкага прыхода ў Бельску-Падляшскім. Яраслаў, закончыўшы вучобу ў гімназіі ў Гродне і Белай-Падляшскай, паступіў на юрыдычнае аддзяленне ў Пецярбург. У 1916 годзе Яраслаў быў мабілізаваны ў армію і пачаў вучыцца ў афіцэрскай школе ў Кіеве. Пазней змагаўся на Каўказскім фронце. Яраслаў Кастыцэвіч ажаніўся і ў міжваенны перыяд з жонкай і дачкой жыў у Бельску-Падляшскім. Пры савецкай уладзе працаваў ён настаўнікам, але з-за фальшывага даносу ў 1941 годзе быў арыштаваны і трапіў у турму ў Ломжу, а жонка і дачка былі сасланы ў Алтайскі край. Падчас нямецкай акупацыі Яраслаў Кастыцэвіч арганізаваў беларускае школьніцтва ў Бельску і вёў тайнае навучанне ў сваім доме. Больш нам вядомы перыяд з жыцця Яраслава Кастыцэвіча — гэта суарганізаванне ім Дзяржаўнай беларускай гімназіі і Пачатковай школы ў Бельску-Падляшскім, якая была хутка зачынена. Калі ў 1949 годзе было адноўлена беларускае школьніцтва ў Польшчы, Кастыцэвіч аргнізаваў Беларускі ліцэй і Пачатковую школу ў Бельску-Падляшскім. Амаль ад пачатку дзейнасці гэтай школы, аж но да часу выхаду на пенсію ў 1970 годзе Яраслаў Кастыцэвіч працаваў дырэктарам Бельскага белліцэя. Дарафей Фіёнік адзначыў, што дзякуючы намаганням дырэктара Кастыцэвіча быў узведзены будынак белліцэя, у якім праходзіла вечарына і паказаў на экране здымак школы адразу пасля яе збудавання. Дакладчык са Студзіводаў узгадаў, што дырэктар Кастыцэвіч быў аўтарытэтам для вучняў і бацькоў, асабліва вясковых. Сабраныя ўспаміналі, як Яраслаў Кастыцэвіч ездзіў на веласіпедзе па навакольных вёсках і нагаворваў бацькоў пасылаць дзяцей на навуку ў беларускі ліцэй. Настаўнікі-пенсіянеры ўспаміналі як разам з дырэктарам Яраславам Кастыцэвічам стараліся як мага найлепш навучыць і выхаваць вучняў і вытрымаць высокі ўзровень навучання, які ў белліцэі і суседняй «тройцы» захоўваецца па сённяшні дзень. Сабраныя ўспаміналі паводзіны Яраслава Кастыцэвіча, які прапускаў дзяўчат у дзвярах, стараўся першым прывітацца з вучнямі. Быў ён патрабуючым дырэктарам, але адначасна дапамагаў вучням, якіх вельмі любіў. Вучні разам з дырэктарам Кастыцэвічам і настаўнікамі хадзілі разам на багаслужбы ў царкву (пазней гэта было забаронена ўладамі Польшчы, так як і ўрокі закону Божага ў школах). Будучы пенсіянерам, на лаўчацы каля свайго дома сустракаўся ён з людзьмі і распавядаў аб мінулым. Яраслаў Кастыцэвіч памёр нечакана ў 1971 годзе. Многа людзей прыбыло на пахавіны, каб развітацца са сваім дырэктарам.

Пасля прэзентацыі ўдзельнікі вечарыны куплялі нававыдадзеныя кнігі, частаваліся гарбатай, кавай і перш за ўсё булачкамі, якія спякла сям'я Фіёнікаў. Інфармацыю пра Яраслава Кастыцэвіча можна знайсці на адмысловых выставах у Бельскім белліцэі і, канешне, у Пачатковай школе № 3 імя Яраслава Кастыцэвіча з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**15 лютага ў Варшаве адбылася канферэнцыя на тэму „НАТО — Беларусь: веды будуюць давер і стабільнасць”. Канферэнцыю ладзілі Беларускі дом у Варшаве і фонд The German Marshall Fund of the United States.**

# Альянс з Блакітнавокай

Тэма канферэнцыі здавалася б быць прыцягнутая звонку сферы рэальнасці, паколькі з першага погляду не відаць нейкіх дачыненняў Блакітнавокай з Альянсам. Галоўным каменем спатыкнення здаецца быць тут геапалітыка.

Пасля роспуску Савецкага Саюза паўсталыя ў яго межах дзяржавы апынуліся перад пытаннем як ладзіць свой палітычны быт. Асабліва складаным было гэтае пытанне для Беларусі, у якой не сфармаваліся моцныя альтэрнатыўныя ў адносінах да маскоўскага напрамкі арыентацыі, не толькі чыста палітычнай, але і гаспадарчай. У Савецкім Саюзе гаспадарчыя суб’екты на тэрыторыі Беларусі былі прывязаны галоўным чынам да савецкай эканамічнай прасторы. І сілай інертнасці гэты стан захаваўся і перад ужо фармальна незалежнай дзяржавай. На тэрыторыі Беларусі была ўзбуйненая канцэнтрацыя савецкага войска, беларускія заводы таксама былі ў вялікай долі падключаны да ваеннай вытворчасці. Пераарыентацыя гэтай вытворчасці на іншыя напрамкі не давала перспектыў поспеху, ды відавочным было, што з ходам часу дзяржавы былога Варшаўскага дагавору памяняюць сваю геастратэгічную арыентацыю, а ў тым ліку і сваё ўзбраенне, выбіраючы больш сучаснае ад новых пастаўшчыкоў. У такой сітуацыі вялікай частцы беларускай эканомікі пагражала, што астанецца яна з пустымі рукамі.

Таму вось кіраўніцтва Беларусі, асабліва пасля прыходу на прэзідэнцкі пост Аляксандра Лукашэнкі, рашуча скіравала ўсе вектары грамадскай актыўнасці на Усход, стараючыся захаваць усе ранейшыя сувязі, асабліва з Масквою, падпарадкоўваючыся ёй і спадзяваючыся яе ўдзячнасці і ўзаемнасці. Спярша гэта спрацоўвала, аднак з ходам часу на гэтай ідыліі сталі паяўляцца трэшчыны. Паволі стала ўзнікаць патрэба дыверсіфікацыі вектараў замежнай палітыкі, падмацаваная аншлюсам Расіяй Крыма і дыверсіяй у Данбасе...

У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі праблемы з Беларусі, Польшчы і некаторых іншых краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

Раман Якаўлеўскі заўважыў, што Беларусь з’яўляецца членам парламенцкай асамблеі НАТО, што дазваляла прадстаўнікам Беларусі ўдзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах без права голасу. У 1996 годзе адбыўся фактычны пераварот у Беларусі, ударыўся прэзідэнцкі абсалютызм і Беларусь перастала ўдзельнічаць у гэтай і іншых структурах. Адным з плюсаў супрацоўніцтва Беларусі з НАТО было выкарыстанне цэнтра па бяспецы ў Гарміш-Партэнкірхене, дзе навучаліся звыш шасцідзесяці беларускіх афіцэраў, у тым ліку і генерал Мальцаў, які двойчы быў міністрам абароны Беларусі. Адбываліся візіты міністраў абароны натаўскіх краін, мяжуючых з Беларуссю. Два гады таму быў створаны дэпартамент ваеннага супрацоўніцтва са спецыяльнымі паўнамоцтвамі. Аднак ёсць і пэўныя горкія рэфлексіі: нядаўні візіт беларускіх журналістаў у штаб-кватэру НАТО ў Брусель не зацікавіў прадстаўнікоў тамашняга беларускага пасольства. У той жа час прыехала ваенная дэлегацыя з Мінска з начальнікам толькі што згаданага дэпартамента ваеннага супрацоўніцтва, і яна таксама адбылася аўтанамічна, хаця былі тады падпісаны нейкія дакументы. Ці нашы дыпламаты хочуць нешта прыхаваць перад грамадствам? Магчыма, што дыпламатыя любіць ціш, каб не раздражняць Масквы... Але ж Масква напэўна не спіць і пра нашы візіты ведае: і фактычна пра нашы дыпламатычныя захады не ведаюць толькі нашы грамадзяне. У канцы 2014 года, у стагоддзе Першай сусветнай вайны, якую Расія адзначыла крымскім бліцкрыгам, натаўскую Турцыю наведала ваенная дэлегацыя Беларусі з начальнікам генштаба, якую турэцкі бок, паводле афіцыйнага паведамлення, пазнаёміў са структурай, сістэмай кіравання і аснашчэннем сіл спецаперацый... У ходзе афіцыйных выступленняў беларускіх ваенных чыноў усё ідзе мова пра супольнага ворага саюзнай дзяржавы, хаця такая не з’яўляецца міжнародным суб’ектам; мова, вядома, пра НАТО...


Андрэй Вардамацкі


Раман Якаўлеўскі

Да гэтага трэба дадаць, што найбольш інфармацыйнай „стравы” беларускія гледачы набіраюць у беларускіх тэлеканалах: каля 65% аглядае Беларусь-1 і ОНТ; расійскія тэлеканалы і Еўраньюс глядзіць каля 20% гледачоў.

Павел Вусаў заўважыў, што Лукашэнка неаднакратна называў Беларусь заходнім фарпостам расійскай арміі, мабыць дзеля таго, каб атрымаць расейскія сродкі на ўзбраенне беларускага войска, бо ваенны бюджэт Беларусі не надта імпазантны. Дарэчы, бюджэт Арганізацыі калектыўнай арганізацыі бяспекі, якога членам з’яўляецца Беларусь, у тысячы разоў меншы за натаўскі бюджэт.

Адносна беларускага бюджэту: польскае войска заказала ў Беларусі трэйлеры для перавозу сваіх танкаў „Леапард”, якія атрымала ад Бундэсвера. А ў Беларусі паяўляецца думка таннай куплі ў Польшчы дэмабілізаваных у нас мадэрнізаваных калісь танкаў „Т-72”. Нейкія дзелавыя дачыненні Беларусі з НАТО ёсць...

Цікавае было набліжэнне Славакіі ў НАТО. Спачатку грамадская падтрымка для ўступлення краіны ў Альянс перавышала 50% грамадства. Але пасля натаўскіх налётаў на Бялград тая падтрымка ўпала ўдвая і спатрэбіўся вялікі высілак палітыкаў, каб вярнуць давер славацкага грамадства. Варта заўважыць, што падобная насцярожанасць паявілася ў Беларусі пасля аншлюсу Расіяй Крыма...

Дарэчы, як абнародаваў Максім Хілько з Кіева, таксама апытанні ўкраінскага грамадства паказваюць надзеі і апаскі людзей адносна дачыненняў з ваеннымі волатамі так на ўсходзе, як і на захадзе Украіны. Вось падтрымку для далучэння Украіны да Альянса абгрунтоўваюць украінцы своеасаблівай гарантыяй бяспекі; гэтага спадзяецца 86% апытаных. Трэць апытаных спадзяецца ўзмацнення і мадэрнізацыі ўкраінскай арміі, а чвэрць апытаных мае надзею на рост міжнароднага аўтарытэту краіны. Апаскі выклікаюць, у першую чаргу, магчымасць уцягнення ўкраінцаў у ваенныя дзеянні НАТО; пабойваецца гэтага 44% апытаных. 28% апасаецца справакавання непасрэднай расійскай агрэсіі, столькі ж сама лічыць, што Украіна павінна быць нейтральнай дзяржавай. Нямнога менш апытаных апасаецца дадатковага росту ваенных выдаткаў, чвэрць апытаных лічыць НАТО агрэсіўным блокам і амаль столькі ж апасаецца захопу ўкраінскай эканомікі замежным капіталам.

Андрэй Вардамацкі, даследчык Беларускай аналітычнай майстэрні, распавёў пра геапалітычную накіраванасць беларускай публічнай думкі, засцерагаючы, што яна не з’яўляецца вырашальным фактарам для прыняцця ўладных рашэнняў. Дадаў, што беларусы адкрытыя на любыя думкі наконт геапалітыкі. Праведзеныя цягам мінулага года апытанні беларусаў, дзе ім лепш жылося б, паказалі, што ў сярэднім каля 60% мяркуе ў гэтым ракурсе пра Расію, а толькі каля 20% аптуе за Еўрасаюзам, апошнія не мелі выпрацаванага меркавання на гэты конт. Гэтая арыентацыя шчыльна спалучана з падачай мас-медыйнай інфармацыі: навін ці нават развясяляльных перадач. Апытанні пра ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй паказалі, што каля 7% апытаных выказалася за поўную незалежнасць абедзвюх краін з закрытымі межамі, візамі і пошлінамі. Амаль 73% выказалася за дружнай незалежнасцю, з адкрытымі межамі, без віз і пошлін. 12,5% лічыць, што абедзве краіны павінны аб’ядначца ў федэратыўную дзяржаву. Амаль 5% насельніцтва Беларусі за тое, каб стала яна часткай Расіі, але гэты паказальнік упаў сёлета да двух працэнтаў. На іншае пытанне, дапускаючае выбар звыш аднаго варыянта, як мае выглядаць будучыня Беларусі, амаль 75% выказалася за незалежнасць, звыш 33% за далучэнне да Еўрасаюза, за 20% за федэрацыю з Расіяй з адной грашовай адзінкай, прэзідэнтам і парламентам ды амаль 15% за далучэнне да Расіі. Іншае апытанне, на якое звярнуў увагу Павел Вусаў, падае, што толькі 4% насельніцтва Расіі зацікаўлена далучэннем Беларусі да сваёй краіны... Цікавыя таксама вынікі апытання наконт даверу беларускага насельніцтва паасобным установам ці арганізацыям. На першым месцы Праваслаўная царква з даверам каля 70%, на другім армія — каля 65%, прэзідэнту даверае 57%, Каталіцкаму касцёлу — 53%, міліцыі — 52%, дзяржаўным медыям і судам — 51%, недзяржаўным медыям — 37%, Еўрасаюзу — 27%, а Паўночнаатлантычнаму альянсу яшчэ менш...

Nec Hercules contra plures. Ды што ж тут Геркулес; нават такі волат, як Аляксандр Рыгоравіч мабыць не змог бы адарваць *народонаселения* Беларусі ад унушанага стагоддзямі менталітэту...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## „Мая мінуўшчына са мной”

— фотарэпартаж Алены Вільтоўскай, Мінск 25.03.2018 год

БНР-100

Канцэрт БНР-100

http://bnr100.by

25 сакавіка беларускі свет адзначыў стагоддзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Праўда, у Рэспубліцы Беларусь, якой не было б на карце свету, калі б не БНР, гэтае свята дзяржаўным не з'яўляецца. Больш за тое, цяперашні беларускі правіцель, як сапраўдны савецкі перажытак, дазваляе сабе зневажальныя выказванні ў адрас першай спробы стварэння беларускай дзяржавы. Маўляў, ганарыцца тут няма чым.

Праўда, у адрозненні ад бяззменнага прэзідэнта, беларусам па ўсім свеце, а значыць і ў беларускай краіне, ёсць чым ганарыцца, калі казаць пра Беларускую Народную Рэспубліку. Менавіта гэтыя людзі з'яўляюцца сапраўднымі патрыётамі, для якіх радзіма гэта не камуністычнае стварэнне на 1/6 частцы сушы, а ўсё, што тычыцца Беларусі і беларускага народа. Менавіта гэтыя людзі штогод адзначаюць Дзень Волі, і зразумела, што адзначылі яны яго і сёлета.

У адрозненні ад папярэдніх гадоў 25 сакавіка 2018 года ў Мінску ўпершыню за вялікі перыяд адбылося сапраўды святочнае мерапрыемства. Хоць у той дзень беларускія ўлады ва ўласцівай ім манеры зноў хапалі тых, хто хацеў мірна прайсці ў шэсці, але чыноўнікі і праваахоўнікі не перашкаджалі раней дазволенаму святочнаму канцэрту. Дадзены канцэрт быў арганізаваны як апазіцыйнымі партыямі, так і маладымі самастойнымі грамадскімі актывістамі, якія не акрэсліваюць палітычных прыхільнасцей, але засведчваюць, што з'яўляюцца беларускімі патрыётамі. Паколькі мерапрыемства ўжо прайшло, то можна сцвярджаць, што падрыхтоўка да яго была паспяховай. Адным з чыннікаў гэтай паспяховасці быў сайт канцэрта ў інтэрнэце. Пакуль ён яшчэ функцыяніруе, варта зазірнуць туды, каб пабачыць, што рабілася для арганізацыі свята.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас https://bnr100.by, то перад яго вачыма адкрыецца беларужовае выяўленне, дзе адразу кідаецца ў вочы — БНР-100. Там жа пазначаны гурты і выканаўцы, якія выступілі на канцэрце, прапануецца стаць валанцёрам на свяце, ахвяраваць на яго грошы ці пакінуць водгук. Тыя, хто не здолеў трапіць на святочнае мерапрыемства з нагоды стагоддзя БНР у Мінску, могуць даведацца аб усім, што там адбывалася, калі клікнуць на пазначэнне „Праграма святкавання”.

На галоўнай старонцы з левага боку арганізатары свята і стваральнікі сайта вырашылі размесціць інфармацыю аб іншых мерапрыемствах, датычных стагоддзя БНР. Яны падзелены на дзве калонкі. У першай падаюцца імпрэзы, якія ўжо прайшлі, а ў другой — якія хутка павінны адбыцца. Прычым распавядаецца аб акцыях не толькі ў беларускай краіне, але і за яе межамі.

Сайт зроблены так, што навіны і артыкулы па тэме стварэння БНР знаходзяцца ў самым нізе галоўнай старонкі. Магчыма, у гэтым ёсць рацыя, бо сайт быў зроблены менавіта ў рамках падрыхтоўкі да канцэрта, але неяк дзіўна бачыць навінныя паведамленні ніжэй за прайшоўшыя мерапрыемствы.

Тое ж самае можна сказаць і аб рубрыцы „Гісторыя”, выйсце на якую знаходзіцца ў левым верхнім вугле цэлага выяўлення. Яно настолькі не кідкае, што яго можна і не заўважыць. А між іншым у гэтай рубрыцы змяшчаецца інфармацыя аб БНР, якую карысна будзе ведаць многім, хто цікавіцца беларускай гісторыяй. Да таго ж гэтыя звесткі падаюцца ў форме пытанняў і адказаў, якія лёгка чытаць і разумець.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

## Падзеі і асобы БНР

### Зварот Старшыні Рады БНР да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларусі

**Дарагія мае Суродзічы, дарагія Сябры Беларусы!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас са Стагоддзем!

Святкуем мы сёння не толькі Юбілей таго слаўнага 25-га Сакавіка 1918 году, калі народ наш аб'явіў свету, што «скідае апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці», але і стагоддзе змагання, часта ў вельмі цяжкіх умовах, каб ажыццявіць ідэалы 25 Сакавіка.

Сёння, сто год пасля абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларусь жыве і жывуць ідэалы 25 Сакавіка. Шлях наш быў цярністым, але мы выжылі, і не дазволілі згаснуць нашай паходні надзеі.

Дарагія Сябры! Без гэтай паходні надзеі, не аднавілі б мы незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе, бо не было б ужо каму яе аднаўляць. Не было б БНР, не было б БССР, не было б і незалежнай дзяржавы Беларусь.

Але ідэалаў БНР мы яшчэ не здзейснілі. Беларускі дом яшчэ ўсё не зусім беларускі, і незалежнасць яго яшчэ ўсё пад пагрозай.

Ці знойдзе наш народ сілы адбудаваць яго з сярэдзіны? Ці хопіць у нас вытрываласці, каб адбудоўваць яго, пакуль не адродзім назаўсёды «жыццё рэспублікі сваёй»? Ці перажытае прамыванне мазгоў чужой прапагандай дазволіць нашым людзям прызнаць, што былі яны анямелымі ахвярамі чужога захопніка?

І ці зразумее народ, што будучыня ў яго руках і што ад яго залежыць, ці Беларусь станецца заможнай краінай Еўропы, ці застанецца эксплуатаванай калоніяй замежных нядобразычлівых?

Дарагія Суродзічы! Ідэалы БНР жывуць і будуць жыць. Але ад кожнага з нас залежыць, калі мы іх здзейснім.

Дык давайце скарыстаем з гэтага вялікага Юбілею, каб даказаць сабе і свету, што мы іх годныя.

Жыве Беларусь!

**Івонка СУРВІЛЛА**

### Życzenia Prezydenta RP w związku z rocznicą proklamowania Białoruskiej Republiki Ludowej

25 marca 1918 r. proklamowano Białoruską Republikę Ludową. W 100. rocznicę tego wydarzenia wszystkim Białorusinom, z którymi Naród Polski łączy wspólna historia i kultura — przekazuję serdeczne życzenia wszelkiej pomyślności i sukcesów w rozwoju ich Ojczyzny.

**Prezydent Rzeczypospolitej Polskiej**
**Andrzej DUDA**



## РЭЗАЛЮЦЫЯ РАДЫ ГОРАДА БЕЛАСТОКА

ад 26 сакавіка 2018 г.
у справе ўшанавання
сотай гадавіны абвяшчэння
Беларускай Народнай Рэспублікі

25 сакавіка 1918 года беларусы заявілі свету аб сваёй дзяржаўнай суб'ектнасці, абвяшчаючы ў Мінску незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая падзея ўпісваецца ў гістарычны працэс народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, паколькі падобныя памкненні праявілі ў той час палякі, чэхі, эстонцы, фіны, літоўцы, латышы, славакі і ўкраінцы.

У Беластоку ўжо ў канцы 1920-х гадоў беларусы 25 сакавіка ўрачыста святкавалі гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Трагічныя падзеі Другой сусветнай вайны ды камуністычны лад у Польшчы і Савецкім Саюзе сцерлі, як магло б здавацца, гістарычную памяць аб першай беларускай дзяржаўнасці новага часу. Аднак так не атрымалася. Памяць аб Беларускай Народнай Рэспубліцы яшчэ ва ўмовах канспірацыі, бо з паловы 1980-х гадоў, пачала вяртаць беларуская моладзь, якая вучылася ў польскіх вучэльнях.

Беларусы Беласточчыны актыўна прымалі ўдзел у падзеях, якія на пачатку 1918 года давялі да абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — нягледзячы на тое, што пераважная іх большасць са жніўня 1915 года вымушана была бадзяцца па бязмежнай прасторы Расійскай імперыі.

Беларусы Беласточчыны ўступалі таксама ў вайсковыя фарміраванні Беларускай Народнай Рэспублікі і стварылі нават самастойны беластоцкі батальён у складзе арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча; прымалі таксама ўдзел у Слуцкім збройным чыне 1920 года.

Рада горада Беластока аддае даніну памяці ўсім тым, хто на працягу мінулага стагоддзя дзейнічаў у карысць добрага супрацоўніцтва паміж польскім і беларускім народамі.

**СТАРШЫНЯ РАДЫ**
Марыюш Кшыштаф Громка

З ☞ працяг

## Нехта робіць агуркі...

спектакль. Я сказала, што хачу зрабіць ансамбль танца. Людзі глядзелі на мяне вялікімі вачыма і не зусім разумелі аб чым я гавару. Але згадзіліся. Я сказала, што хачу як найбольш хлапцоў. А яны: — *Што, вы будзеце хлапцоў танцаў вучыць?* У Беларусі ці ў Расіі хлапцоў пасылаюць на балет, у школы танца і гэта нармальны, надта папулярны, кірунак развіцця. У Беластоку няма такога думання, вось тут у мяне ў цэнтры „Сьрудмесце" 80 дзяўчынак і адзін хлапец. Я здзіўлена, чаму яны не прыводзяць хлапцоў. І тут проста кажу, што ў нас будуць парныя танцы. Спачатку прыйшло восем хлопцаў, пасля я, так сказаць, пачала шчыпаць у кожнай сям'і: — *У вас ёсць дачка, а можа ёсць сын? Што робіць ваш сын?* Проста, з кожнай сям'і мы яшчэ сцягнулі хлопцаў. Некаторыя хлопцы прыйшлі самі. Нават наш саліст, Шыман Клімюк, ён сам да мяне прыйшоў. Я пачынаю ў школе заняткі, а ён стаіць. Пытаю што за хлопец, а ён — хачу займацца! І Павел Герасімюк сам прыйшоў, сам стаў. Але ж пазаймаўся і адышоў ад нас, год не хадзіў, а ў гэтым годзе, восенню прыйшоў і так прасіўся, каб яго зноў узялі.

**ГК: — Дзякуючы ім Вы паказалі нам цудоўны мужчынскі танец «Гуляй казак»!**

**АП:** — А вы ведаеце, я нават не хацела рабіць гэтага мужчынскага танца. Я пачала рыхтаваць з дзяўчатамі „Рэчку". Дзяўчыны год часу вучыліся ўтрымання хусткі, гэта надта складаная справа. І калі хлопцы пабачылі, як яны прыгожа танцуюць, сталі падыходзіць і кажуць — а мы не можам танцаваць асобна? Прымусілі мяне, каб ім нешта падшукала.

**ГК: — Беларусы, наогул, ведаюць «Лявоніху» і больш нічога?**

**АП:** — Беларуская харэаграфія вельмі багатая. Мне здаецца, што нават больш багатая за расійскую. Беларусі пашанцавала з таго поваду, што гэта такі, міжкультурны рэгіён. Беларусы, апрача сваіх, штосьці яшчэ пачарпнулі ад украінцаў, ад палякаў, ад яўрэяў, расейцаў... Акрамя традыцыйных танцаў, у нас танцы, якія звязаны з працай, з характарам людзей, з жывёлай, з птушкамі, з абрадамі. Можна выбіраць і рабіць такую праграму, якой тут яшчэ ніхто не бачыў.

**ГК: — На балі, сарганізаваным аб'яднаннем АБ-БА, я бачыла Вас з мужам Яраславам Прусам. Вы навучылі яго беларускіх танцаў?**

**АП:** — У мяне муж з прыемнасцю замаўляў беларускую вышыванку. Ён вельмі зацікавіўся беларускай культурай. Ён спартовец. У 38 гадоў захварэў і мае прашчэпленае сэрца, ён пацыент прафесара Рэлігі. Ён паляк, католік, беластачанін, ніколі раней не цікавіўся ні беларускай песняй, ні беларускай мовай, ні харэаграфіяй. Ён быў далёка ад беларускай, праваслаўнай культуры. Ведаў, што гэта існуе, але не разумеў, што гэта такое.

Але ён чалавек, на якім можна пакласціся. Ён дапамагае мне ў кожнай сітуацыі. Я такая шчаслівая, што яго знайшла! Ён перажывае за кожны танец, у мяне канцэрт — а ён не спіць. Я сплю, а ён не спіць, ён перажывае за гэтых дзяцей. Ён ведае кожнае дзіця, цяпер у мяне ў Беластоку 200 вучняў і ён ведае кожнага. Ён робіць для нас здымкі, здымае відэа, усюды з намі ездзіць, на ўсе фестывалі. Для яго „Падляшскі вянок" ужо „з цукру".

**ГК: — Як будзеце святкаваць Вялікдзень?**

**АП:** — У хаце — я, муж, дачка, мама мужа прыйдзе да нас. У гэты дзень, я лічу, што найлепш, калі вакол цябе сямейны круг.

**ГК: — Рыхтуеце гарадзенскія стравы?**

**АП:** — Напэўна ў нашым меню паявіліся прыкускі, салаты. Мая свякроў дабаўляе цукар, а я дабаўляю вельмі многа часнаку і мае стравы не салодкія, а горкія. Мы — беларускія горкія жанчыны... І не люблю саліць агуркоў! Але сям'я разумее, што нехта робіць агуркі, а нехта танцы...

Ведаеце, я шмат разоў сумнявалася ў тым, што раблю, думала, што можа не маю ідэй, задум, разважала ці гэтага не кінуць. Але колькі б не ўцякала ад танцаў, Бог мяне вяртаў на месца. І пасылаў у галаву цудны твор, каб я зноў адчувала, што нарадзілася на гэтай зямлі ствараць харэаграфічныя вобразы і творы. Хацела б передаць камусьці сваю справу. У мяне ёсць такая Кася Іванюк, якая магла б пераняць гэта ўсё пасля мяне. Хацела б, каб мой матэрыял выйшаў з маёй галавы і ўклаўся ў іншую добрую галаву. Так менавіта развіваецца грамадства...

Так, нехта робіць агуркі, а нехта танцы.

**ГК: — Аксана Прус робіць класныя танцы! Дзякую за размову, жадаем Вашай сям'і і „Падляшскаму вянку" радаснага Вялікадня і здзяйснення планаў і мараў!**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**1.** адборныя лепшыя войскі, у якіх і белагвардзейцы,і чырвонагвардзейцы, **2.** оперная песня, **3.** папрок /з літар слова *акорд*/, **4.** вялікая рака на захадзе Сібіры, **5.** берасцейская рака, **6.** хвойнае вечназялёнае дрэва ў... націску, **7.** кавалак бервяна на паліва, **8.** даставанне з нетраў зямлі карысных выкапняў, **9.** вёска ў Арлянскай гміне з грабніцай Шульцаў, у якой... паўлін.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | | | |
| | 3 | 4 | | | | | | | |
| | | | | | | 5 | | | |
| | | | | | | 6 | | | |
| 7 | | | 8 | | | | | | 9 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Бук, бяроза, воз, дыня, Іўе, Леда, лета, мох.

Рашэнне: **Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мацею Цілюльку** з Пратасаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 08.04 — 14.04

**(22.03. — 20.04.)** Новыя творчыя задумы, смелыя планы. Калі табе хапіла трываласці ў здабыванні чыйгосьці сэрца, 9-13.04. атрымаеш заслужаную ўзнагароду. 9-13.04. Блізняты, якія хочуць займець дзіця, няхай інтэнсіфікуюць стараннi. Будзеш абучаць іншых, але трымай тузы ў сваім рукаве. Будзеш рабіць тое, што любіш. Дна ў кашальку не пабачыш, але можаш разглянуцца за карыснай інвестыцыяй. 8-12.04. прыйдзецца расплаціцца за старыя памылкі.

**(21.04. — 21.05.)** Важныя справы рушаць з капыта. Займайся найбольш сваімі справамі. Спраўна пойдзе ў дзеяннях фізічных і патрабуючых засяроджанасці і цярплівасці. 8-9.04. высветляцца справы ў тваёй пары. 9-13.04. можаш паспяхова пазмагацца за сэрца цікавай асобы. 7-11.04. пільнуйся, каб хтосьці не выкарыстаў твайго спрыяння і ветлівасці. 10-14.04. будуць нагоды адпачыць у кампаніі любых людзей; не адмаўляйся ад большай імпрэзы. Марс спрыяе Быкам-юрыстам і асобам, якія будуць мець справу з судамі і дзяржаўнымі ўстановамі.

**(22.05. — 22.06.)** Не марнуй часу на дробныя справы. Цяпер будзь ашчадным і цярплівым ды стрыманым, асабліва ў сферы пачуццяў. Вялікі досціп і інтэлектуальныя здольнасці. На працы нервова, не дай сябе вывесці з раўнавагі неправеранымі інфармацыям. Дбай аб свой пазваночнік.

**(23.06. — 23.07.)** Вялікая папулярнасць у іншага полу. Рух у інтарэсах і большыя грошы. З 11.04. выйграеш баталію за чыёсь сэрца. Іншыя будуць з табою лічыцца. 9-13.04. Рака без пары можа метка трапіць страла Амура. З 11.04. можаш шмат добрага зрабіць для іншых. Але 8-12.04. лёс можа паставіць цябе перад нялёгкім выпрабаваннем.

**(24.07. — 23.08.)** Інвестуй у сябе. Моцна засяродзься, бо 7-11.04. можаш праваронiць не адну нагоду. 8-12.04. лішняя самаўпэўненасць і ўра-аптымізм могуць давесці да памылак і страт. Твая дапамога можа прыдасца радні і сябрам. На працы вынікі пашыбуюць на рэкорд. Еж зялёную гародніну, арэхі, памідоры і пі какаву.

**(24.08. — 23.09.)** Нейкая важная справа ад 9.04. (аж да 17.04.) зладзіцца дакладна па тваёй думцы. Хаця да 15.04. трэба будзе рэвізаваць свае планы і ўвесці папраўкі. 9-13.04. прыкмець сігналы, якія высылае да цябе цікавая асоба; пасуеце да сябе як дзве палавінкі яблыка! Ідэальны час на шлюбы і заручыны — 8-9.04. Дзева з другой дэкады — не дай сябе злавіць у пастку матэрыялізму!

**(24.09. — 23.10.)** Не будзь легкадумным і прагным! Таксама можаш прытушыць сваю бескампраміснасць. 8-9.04. твае пачуцці распаляцца; можа паявіцца знакамітая нагода для карыснай інвестыцыі (напр. купля дома ці ўчастка). Не купляй цяпер аўто (да 16.04.). Супакоіць цябе мастацтва, музыка.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш добра адчуваць сябе пасярод людзей. Зоркі падтрымліваюць твае мерапрыемствы. 8-12.04. могуць прыгадацца табе балючыя ўспаміны і крыўды. 9-13.04. затрапечацца тваё сэрца ад асобы, якая хутка ўвойдзе ў тваё жыццё. 10-14.04. можаш трапіць у чыесь абдымкі. З 11.04. многа гарачых хвілін. З 9.04. (да 17.04.) спадзявайся вылучэння, пахвал, умацавання свайго становішча, магчымае павышэнне. Не купляй цяпер машын, электронікі, бо хутка папсуюцца.

**(23.11. — 22.12.)** Стабілізацыя, бяспека. Нагоды для збірання новага вопыту. Будзь асцярожны. З 9.04. (да 17.04.) час спрыяе размнажванню маёмасці, але не будзь прагны. Раманы наладжаныя цяпер не маюць будучыні. Крыху маразматычна дома. На працы старайся не нарабіць «хвастоў». Фінансава спакойна. Варушыся на паветры, еж рыбу.

**(23.12. — 20.01.)** Новыя сілы, радасць, воля дзейнасці. Добрая форма, хаця будуць моманты, што перанясеш горы, іншым разам будзеш слабейшы, раздражнены і нават злосны. З 9.04. (да 17.04.) можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто падтрымае цябе ў кар'еры. 9-13.04. вельмі пачуццёва і горача. 10-14.04. сходзі да касметолага.

**(21.01. — 19.02.)** Пакуль слабавата, з малымі сіламі, са спрэчкамі. Лепш пасядзець дома, бяспечна і ўтульна. 7-9.04. будзеш патрабаваць парады і падтрымкі на працы; вывучай мовы. З 9.04. (да 17.04.) можаш разглянуцца за іншай працай. Вядзі рэгулярнае жыццё. Цяпер лепш не сядай на дыету.

**(20.02. — 21.03.)** Разлічвай на шчаслівыя выпадкі. Падтрымка асяроддзя. Выдатны час для фінансаў. Новыя знаёмствы, раманы. Рыбы з другой дэкады — лепш зніміце ружовыя акуляры, глядзеўшы на любую асобу. 10-14. асабліва адчуванне кан'юнктуры і чуткі нос для інтарэсаў. Абследуйся, ці не маеш алергіі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# «Тры ангелы»

## з анёльскімі галасамі з Макаўкі

Анна, Уляна і Юстына, сёстры. Дочкі Міраіды і Валянціна Садоўскіх з Макаўкі. Унучкі Веры Дамань, слаўнай беларускай спявачкі з Плянты Міхалоўскай гміны. Малодшыя дзяўчаты ў школьныя гады спявалі ў калектыве „Пронар”. Сталі спяваць са старэйшай сястрой Аняй, і так узнікла сямейнае трыо. Цяпер яно называецца «Трыяда». Выступаюць ужо шмат гадоў, падрасло найменшае пакаленне Садоўскіх. У перадачы талент-шоў „Must be the music” выступілі былі яшчэ як сёстры з „Сямейнага трыо з Макаўкі”. Дзяўчаты паходзяць з прыгожай вёскі Макаўкі, што пад мястэчкам Нарва. Спяваюць а-капэла па-беларуску і на мясцовай гаворцы, а таксама праваслаўныя песні.

— Гэта ацаніла журы „Must be the music”, — кажа лідарка калектыву Анна Пятроўская, найстарэйшая сястра, філолаг, журналістка і спявачка: — Сказалі, што з такой музыкай мы ніколі не будзем зоркамі, бо яна нішавая, але ацанілі тое, што мы хочам збіраць фальклор ад старэйшых жыхароў, ад падляшскіх спявачак і зберагаць нашу музычную культуру ад забыцця. Таксама адзначылі, што гэта бачна, што мы сёстры, бо спяваем вельмі чыста, рытмічна, як адзіны арганізм. Хаця такія непадобныя адна на адну на выгляд, на першы погляд.

„Сямейнае трыо з Макаўкі” — шматгадовы пераможца фестывалю „Беларуская песня”, фестывалю „Маладыя галасы, старыя песні», выступала на канцэртах „Пявучых сем’яў” у Беластоку і ў аглядах фальклорнай песні ў Польшчы і за мяжой, на еўрапейскіх сустрэчах музыкуючых сем’яў.

Ці падобныя яны адна на адну?

— Зусім не! — кажуць хорам. — Часам пытаюцца ў нас, ці мы сапраўды родныя сёстры. Калі пачалі спяваць? А спяваюць ужо амаль дваццаць гадоў! Амбасадаркі Нарваўскай гміны на ўсю Польшчу!

— Калі нам было 12-13 гадоў, — прызнаецца Уля Парук, — мы апынуліся на сцэне. А ў хаце — ад маленства спявалі. Як мама спявала, то і мы спявалі. І бабуля.

— Мы з мамай мелі такую гульню, — прыгадвае Анна Пятроўская. — Мама заспявае адзін радок з песні, а мы адгадвалі, што гэта за песня. Вядома, мы часам прайгравалі, бо мама ж ведала вельмі многа песень. Але ўжо той штуршок, каб вывучаць фальклор, мы ўжо мелі з хаты. У Нарваўскім прыходзе мы тады не спявалі, але выступілі на Гайнаўскіх днях царкоўнай музыкі. І пачалося. Сталі мы з «Сямейнага трыо з Макаўкі» калектывам «Трыяда».

Памятаецца першы выступ на фестывалі „Беларуская песня” ў Беластоку, у Гарнізонным клубе, пасля ў спартзале „Влукняж”, ужо на гала-канцэрце. Цяпер яны ў сукенках, якія атрымалі, дзякуючы Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, якое спансаравала касцюмы, пашытыя на мінскай фабрыцы „Эладэя”, але па праекце дзяўчат.

Калектыў падрыхтаваў другую кружэлку, ужо не чыста фальклорных, а царкоўных песень «Тры ангелы», вядомых у народзе. Запісалі яе ў 2017 годзе. Сярод дзесяці песень — «Слава Богу за ўсё», «Паклоннічкі», «Покаяние», «Под Крест Твой», «Святый Боже», «Иисусова молитва», «Три Ангелы», «О, приди, мой брат», «Малітва маці».








Міраіда Садоўская на лісточку паперы запісала свае думкі:

Сягоння, 1 сакавіка,
у маіх прыгожых дачок
Ганны, Улі і Юстыны вялікае свята.
Прыбыло людзей багата.
Вось яны выдаць дыск рашылі
і на гэту акалічнасць сяброў, блізкіх запрасілі.
Цяжкую працу, наклад сіл
і сэрца ўлажылі,
З Божай помашчу і шчырых людзей
выдалі дыск у час посных дней...

Напісала матуля Міраіда вершык для дачушак і ўнучак, але яго не прачытала, усхваляваная і рада, што маладое пакаленне працягвае бабулін і прабабулін яшчэ клопат пра родную песню. Духоўную таксама. Бо Дамані і Садоўскія спяваюць як дыхаюць. Як б’юцца іхнія сэрцы. А маму Міраіду толькі сёлета ўдалося вывесці на вялікую фестывальную сцэну. Яе сціпласць проста праслаўтая. А прыходзіцца паказацца — у тэлебачанні — якая рада была яна на талент-шоў „Must be the music”, калі з унучкамі цешылася поспеху дачок на ўсю краіну! А найбольш таму, што ўсе яны шчыра і таленавіта падмацоўваюць духоўную культуру роднай старонкі, развіваючы тое, што даў ім Бог і што яна, маці, узгадавала. Якая радасць свеціцца ў шчырых, прыгожых вачах паслядоўніц бабулі і маці!

— Трыо спявачак родам з Макаўкі — як адзін арганізм, вібруючы мелодыяй і ў рытме гарачых сэрцаў! — кажа спадарыня Лідзія Дудзіч, якая ў часы маладосці спявала ў беластоцкім беларускім хоры і якая не прапускае ні аднаго культурнага мерапрыемства. Перш за ўсё беларускага, праваслаўнага. Мае з сабою сшытачак з песнямі: — Мы свае песні спісвалі або вырэзвалі з «Нівы», дзе яны друкаваліся па заяўках, або са збору нашых песень Міколы Гайдука. Вось там былі запісаны песні бабулі Даманёвай з Плянты. Гэта вялікая падтрымка для таго, каб не забывацца роднага духу, роднага слова...

— А ўсё пачалося аднойчы пры сямейным стале, — успаміналі дзяўчаты. — Спяваем перш за ўсё беларускі фальклор, песні запісаныя перш за ўсё ад бабулі і ад іншых падляшскіх спявачак. Ведаем цану кожнай ноткі, кожнага гуку, які выходзіць з грудзей, з-пад сэрца.

Новае пакаленне — дочкі Ганны і Улі і іх сяброўкі ў гэты раз займаліся кружэлкамі, выдадзенымі славутым трыо. Каліса Пятроўская, вучаніца Пачатковай школы № 4 у Беластоку, даклалася сваім талентам і з іншага боку — намалявала карцінку да дыску з мамай і цёцямі, як ідуць па сцежцы ў Нарваўскую царкву. Дзякавалі на канцэрце доктару Яну Кахановічу з медычнай фірмы «Кендрон», які фінансава падтрымаў праект, іхнім сем’ям, сябрам і ўсім тым, хто падтрымлівае «Трыяду» малітвай і добрым словам. Таксама айцу Дзмітру Ціханюку, які са сваёй гітарай падмацаваў не адну музычную родную задуму.

«Радзінны канцэрт» спявачак адбыўся ў Цэнтры праваслаўнай культуры 11 сакавіка, у вельмі сямейнай атмасферы, пры свойскім посным пачастунку. Сустрэча працягвалася яшчэ доўга, з размовамі, успамінамі, сярод частых гасцей усіх мерапрыемстваў ладжаных у ЦПК па вуліцы святога Мікалая ў Беластоку. А на мерапрыемствах, і святочных, і культурных, і навуковых сустракаем тут людзей, якія сапраўды горнуцца да сваёй культуры і чакаюць сустрэч са сваімі як вялікага свята.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

ISSN 0546-1960 14